*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*Францішак БАГУШЭВІЧ*




# НАША СЛОВА

Штотыднёвая газета (Выходзіць з сакавіка 1990 г.) ◈ 23(79) ◈ 10 чэрвеня 1992 г. ◈ Кошт 20 кап. (Па падпісцы — 10 кап.)

**«Вельмі крыўдна і сорамна за нашу феміду, за наша правасуддзе».**

Стар. 3

## Пастанова

### *Рэспубліканскай канферэнцыі «Беларуская мова і нацыянальна-дзяржаўны суверэнітэт Рэспублікі Беларусь»*

Зыходзячы з асноватворнага права чалавека на дастойнае нацыянальна-культурнае жыццё, грунтуючыся на аснове тысячагадовых гістарычных традыцый народа Беларусі і ў адпаведнасці з Дэкларацыяй аб дзяржаўным суверэнітэце, Канстытуцыяй і дзейным заканадаўствам Рэспублікі Беларусь, Рэспубліканская навукова-практычная канферэнцыя «Беларуская мова і нацыянальна-дзяржаўны суверэнітэт Рэспублікі Беларусь» п а с т а н а ў л я е:

1. Адзначаючы, што нацыянальна-культурнае адраджэнне Беларусі не знаходзіць па вялікаму рахунку належнай падтрымкі з боку органаў дзяржаўнай улады і кіравання, міністэрстваў і ведамстваў, кіраўнікоў прадпрыемстваў, устаноў і арганізацый, настойліва патрабаваць ад кіраўнікоў органаў дзяржаўнай улады Рэспублікі Беларусь няўхільнага выканання законаў аб мовах, аб адукацыі і аб культуры, рэальнага забеспячэння ўмоў для стварэння нацыянальнай сістэмы адукацыі, інфармацыі, развіцця і ўзбагачэння беларускай культуры ў адпаведнасці з Дзяржаўнай праграмай развіцця беларускай мовы і іншых нацыянальных моў у Рэспубліцы Беларусь.

2. З мэтай умацавання нацыянальна-дзяржаўнага суверэнітэту Рэспублікі Беларусь прапанаваць грамадскім арганізацыям рэспублікі настойліва праводзіць мэтанакіраваную работу па нацыянальна-культурным адраджэнні Бацькаўшчыны з апораю ў сваёй дзейнасці на моўна-культурнае заканадаўства Рэспублікі Беларусь.

3. Прызнаць, што Закон аб мовах у Рэспубліцы Беларусь, у аснову якога пакладзена дастаткова абгрунтаваная і прыдатная для грамадства канцэпцыя, патрабуе пэўных удакладненняў і дапаўненняў у напрамку больш дзейснага забеспячэння патрэб нацыянальна-культурнага развіцця Беларусі і ўмацавання дзяржаўнага суверэнітэту рэспублікі.

4. Прасіць Савет Міністраў рэспублікі:

а) стварыць *Інспекцыю па нагляду за выкарыстаннем дзяржаўнай і іншых моў у Рэспубліцы Беларусь,* якая павінна мець падпарадкаваныя ёй структуры ў адміністрацыйных цэнтрах *у межах існуючых штатных адзінак;*

б) стварыць міжведамасныя камісіі з прадстаўніцтвам нацыянальна-патрыятычных грамадскіх арганізацый па правядзенні атэстацыі кіруючых кадраў у галіне адукацыі, інфармацыі і іншых сферах сацыяльна-культурнага комплексу з мэтай забеспячэння патрабаванняў Закона аб мовах аб пераводзе справаводства на дзяржаўную мову.

5. Звярнуцца ў Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь з прапановай унесці змены ў заканадаўства аб падатках, пашырыўшы льготы тым вытворча-прадпрымальніцкім структурам, якія сваёй дзейнасцю ўносяць рэальны ўклад у нацыянальна-культурнае адраджэнне Беларусі і пашырэнне беларускай мовы пры адначасовым абкладанні спецыяльным падаткам выпуску перыёдыкі і літаратуры на рускай мове (акрамя падручнікаў для школ і ВНУ) і заходнееўрапейскіх мовах.

6. Звярнуць увагу сродкаў масавай інфармацыі на недапушчальнасць любых формаў знявагі дзяржаўнай беларускай мовы; у выпадку парушэння дадзенага патрабавання прыцягваць віноўных да адказнасці ў адпаведнасці з заканадаўствам.

7. Прасіць рэспубліканскія газеты выдзяляць адзін раз у месяц старонку для выступленняў па праблеме нацыянальна-культурнага адраджэння, асвятлення вопыту работы ТБМ імя Ф. Скарыны і іншых нацыянальна-патрыятычных аб'яднанняў.

8. Прасіць Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь арганізаваць сістэматычныя выступленні па радыё і тэлебачанні па праблемах нацыянальна-культурнага адраджэння, гісторыі Беларусі, сучаснага стану беларускай культуры і мовы.

9. У навучальным 1992/93 годзе істотна пашырыць выкладанне ў вышэйшых і сярэдніх спецыяльных навучальных установах і на падрыхтоўчых аддзяленнях на дзяржаўнай мове.

10. Правесці ў лістападзе 1992 г. сумесна з кіруючымі работнікамі абласных і раённых (гарадскіх) выканкамаў Саветаў народных дэпутатаў нараду па праблемах вяртання беларускай мовы ў сферы дзяржаўнага, грамадска-палітычнага і духоўнага жыцця.

11. Абмеркаваць у канцы жніўня 1992 г. з кіраўнікамі і прафесарска-выкладчыцкім складам ВНУ і тэхнікумаў стан беларусізацыі навучальна-выхаваўчага працэсу.

12. Патрэбаваць ад Вярхоўнага Савета Беларусі, органаў дзяржаўнага кіравання і праваахоўных органаў рэспублікі прыняць канкрэтныя захады ў дачыненні да тых святароў праваслаўнай і каталіцкай канфесій, чыя дзейнасць скіравана на русіфікацыю і паланізацыю беларускага насельніцтва і якая па сутнасці з'яўляецца антыдзяржаўнай.

## ПОСТУП ТЫДНЯ

**МІНІСТР ЗАМЕЖНЫХ СПРАЎ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ ПЕТР КРАЎЧАНКА ПРАВЕЎ СУСТРЭЧЫ** з кіраўнікамі дыпламатычных прадстаўніцтваў Францыі, Кітая і Генеральным консулам Польшчы. У бліжэйшы час у адной з навучальных устаноў Францыі будзе адкрыта кафедра беларускай мовы, а ў Варшаве — пасольства Рэспублікі Беларусь.

***ПЕРАМОВЫ ПАМІЖ «МАЗАМ» І «НЕАПЛАНАМ» (ШТУТГАРТ, ФРГ) ПА ВЫПУСКУ БЕЛАРУСКІХ АЎТОБУСАЎ ЗАКОНЧЫЛІСЯ ПАСПЯХОВА.** Ужо ў канцы гэтага года з канвеера аўтазавода сыдзе першая партыя новых машын. Сваім машынам яшчэ б і свае добрыя дарогі!*

У Латвіі беларусамі-прадпрымальнікамі створана Асацыяцыя дзелавога супрацоўніцтва «Беларускі шлях». Дай Бог, каб гэты шлях не быў пустым для Беларусі.

***У ХУТКІМ ЧАСЕ ДА СЯМІ ДЗЯРЖАЎ ЦЭНТРАЛЬНАЙ ЕЎРОПЫ,** якія аб'ядналіся ў міжурадавую арганізацыю «Еўрапейская ініцыятыва», могуць далучыцца Беларусь, Украіна, Румынія і Балгарыя. Цяпер гэтыя дзяржавы разглядаюцца «Еўрапейскай ініцыятывай» як кандыдаты ў члены гэтай арганізацыі.*

У Аўстрыю па лініі супрацоўніцтва адпраўлена на адпачынак група дзяцей. Аўстрыйцы, разумеючы нашы эканамічныя праблемы, прыслалі за дзецьмі ў Брэст свае аўтобусы.

***45 ТЫСЯЧ НЯМЕЦКІХ МАРАК МЭТАВЫМ ПРЫЗНАЧЭННЕМ ВЫДЗЕЛІЎ** беларускаму дабрачыннаму фонду «Дзеці Чарнобыля» ўрад зямлі Рэйнланд-Пфальц. Грошы будуць выкарыстаны для набыцця білетаў дзецям з чарнобыльскай зоны, якія паедуць летам адпачываць у Германію.*

**НОВЫЯ БІЛЕТЫ АТРЫМАЛІ БЫЛЫЯ КАМСАМОЛЬЦЫ**, а цяпер члены Саюза моладзі Беларусі. На вокладках — парастак, які цягнецца да сонца. На старонках дакумента няма адзнакі пра выплачаныя ўзносы. Кароткія звесткі аб уладальніку білета даюцца на беларускай мове. Добра, каб з заменай білетаў і Саюз моладзі Беларусі стаў сапраўды беларускім і па духу і па справах.

## МІЛАСЭРНАСЦЬ ДЗЕЯННЕМ



Лепей, калі ваенныя самалёты замест бомбаў будуць вазіць дзяцей — лічыць дырэктар германскай кампаніі «НОАПРОМОУШН» Набаі Моркес. Гэта кампанія мае багаты вопыт дабрачыннай дзейнасці, арганізацыі турнэ, выстаў. Цяпер яна прапанавала ўтварыць беларуска-германскі фонд дапамогі дзецям Чарнобыля.

Ёсць дамова пра тое, што на пачатку чэрвеня ў нямецкі горад Гютэрсло самалётам Узброеных сіл Рэспублікі Беларусь будзе адпраўлена 155—160 чалавек. У складзе дэлегацыі — больш за 100 дзяцей, якім патрэбна аздараўленне, а таксама камерны аркестр Менскага музычнага ліцэя.

**На здымку:** Набаі Моркес і міністр абароны РБ П. П. Казлоўскі ў час сустрэчы.

**Фота Аляксандра ТАЛОЧКІ. (БелТА).**

# РАТУЙ, ДЗЯРЖАВА, МОВУ!

Праблемы, вынесеныя на ўсеагульнае абмеркаванне ў дакладах намесніка Старшыні Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь М. Дземчука і доктара гістарычных навук Л. Лыча, вызначылі накірунак спрэчак. Народны дэпутат Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь Алег Трусаў сказаў:

— Калі гаварыць пра палітычную сітуацыю, у якую трапіла роднае слова, то заўважце, колькі сёння партый і рухаў літаральна ваюе з беларускай мовай. А дзяржаве амаль што няма да гэтага справы. Мусіць, многія бяруць прыклад са спадара Кебіча, які ці не год назад паабяцаў нам, што «ўвосень» пяройдзе на рабочую беларускую мову, ды так, відаць, і забыўся на тое, што сказаў.

Спадар Трусаў звярнуў увагу прысутных і на працэс стварэння беларускага войска. Але ж ці ідзе там працэс беларусізацыі? І хто, як не дзяржаўныя структуры, павінны паўплываць на ўкараненне беларускай мовы ў войску? Алег Трусаў прапанаваў правесці і спецыяльную нараду ТБМ, прысвечаную моўнай сітуацыі ў Акадэміі навук Беларусі. Пакуль што нават яе новы прэзідэнт не выявіў свае адносіны да роднага слова.

Старшыня суполкі ТБМ з Салігорска Марыя Мацюкевіч расказала пра моўную сітуацыю ў сваім раёне. Звярнуліся тэбэзмаўцы Салігорска ў гарвыканкам з просьбай выдзеліць для суполкі памяшканне, каб людзям было дзе збірацца. Дэпутаты, здавалася б, былі не супраць. Затое старшыня гарвыканкама адрэагаваў наступным чынам: «Нам беларуская мова не патрэбна!» Каму гэта — нам? Народу? Дзяржаве? Ці старшыні гарвыканкама?.. Ігнаруецца роднае слова і сродкамі масавай інфармацыі і прапаганды. У тым жа Салігорску пачало працаваць камерцыйнае тэлебачанне. Зарэгістраваны новы канал з правам вяшчання на чатырох мовах — расійскай, беларускай, нямецкай, англійскай. Ды толькі «з правам», а на справе беларускамоўных перадач не бывае. Шэсцьдзесят гадоў на беларускай мове друкаваўся салігорскі «Шахцёр». А цяпер ён ужо «двухмоўны». І так па ўсёй Беларусі.

Сваю згоду з крытыкай у адрас Акадэміі навук выказаў віцэ-прэзідэнт АН РБ Радзім Гарэцкі:

— Толькі два ці тры інстытуты з усіх навуковых падраздзяленняў Акадэміі навук праводзяць навуковыя пасяджэнні на роднай мове.

Якія да гэтага могуць быць каментары? Газета «Навіны Беларускай Акадэміі» выдаецца на дзвюх мовах. Бачыце, навукоўцу-расійцу цяжка вывучыць дзяржаўную мову Беларусі, на карысць якой ён павінен працаваць.

Востра прагучала выступленне старшыні Гродзенскай гарадской рады ТБМ імя Ф. Скарыны літаратуразнаўцы Аляксея Пяткевіча:

— Ці патрэбны нам такія органы ўлады, якія мы цяпер маем? Ці маюць яны права на давер? Хто, як не яны, павінны кантраляваць выкананне Закона аб мовах? Канешне ж, у нас ёсць добрыя прыклады пераходу на беларускамоўны рэжым. Але гэта адзінкавыя выпадкі... Нават у большасці школ гучыць з вуснаў настаўнікаў расійскае слова. Калі б Закон аб мовах выконваўся як след — усе школы былі б сёння беларускімі. Але калі дзе і прайшлі да выкладання прадметаў па-беларуску, то няма там беларускага духу. Школа павінна ажыццяўляць беларускую нацыянальную ідэю. Зараз пры інстытуце педагогікі створаны калектыў па яе распрацоўцы. Ды наробкаў яго пакуль што не відаць.

Спадар Пяткевіч выказаўся за стварэнне адпаведных дзяржаўных структур, якія маглі б ажыццяўляць кантроль за выкананнем Закона аб мовах.

— Мы жывём у эканамічным канцлагеры,— заявіў галоўны рэдактар часопіса «Полымя» Сяргей Законнікаў. Але ж, відаць, і духоўнае наша жыццё нагадвае калі не канцлагер, то турэмную камеру, дзе праз краты, бы глыток паветра, атрымліваем мы «дозы беларускасці». А між іншым,— заўважыў надалей Сяргей Законнікаў,— калі ў свой час мы радаваліся, што распачацца ішлі да беларусізацыі, то сёння мы ідзём у адваротны бок. Няма ў нас нацыянальнага тэлебачання. А тое, што ёсць, змагаецца з родным словам, як, дарэчы, змагаецца і з нацыянальным суверэнітэтам. Такое толькі ў Беларусі можа адбывацца! А дзяржаўныя органы ўсё маўчаць і маўчаць.

Цікавую статыстыку прывёў у сваім выступленні спадар Законнікаў. Сярод кіруючых работнікаў ВНУ, устаноў аховы здароўя, народнай адукацыі беларускай сталіцы першае месца займаюць рускія, пасля — украінцы. На трэцім і чацвёртым месцах — яўрэі і палякі. І толькі пятую прыступку займаюць беларусы.

Старшыня Баранавіцкай гарадской рады ТБМ Васіль Дубейка падкрэсліў, што справе беларусізацыі бракуе канкрэтнай дзяржаўнай праграмы. Мо здолее распрацаваць яе Навукова-асветніцкі нацыянальны цэнтр імя Ф. Скарыны?.. Што ж да канкрэтных прапаноў, то спадар Дубейка выказаўся за ўвядзенне ў наша заканадаўства артыкула, згодна з якім караліся б тыя, хто зневажае беларускую мову.

Валянцін Арлоў з Віцебска зазначыў:

— Той, хто выступае супраць мовы, той выступае супраць этнасу. Народ, які адмаўляецца ад мовы, не можа быць суверэнным.

Як, пэўна, не можа быць суверэнным і народ, што імкнецца служыць чужым ідэям.

Выступленне Старшыні Пастаўскай раённай рады ТБМ паэта Алеся Касцені таксама прымушае задумацца. У Пастаўскім раёне працуе 6 касцёлаў і 6 цэркваў. Здавалася б, нічога дрэннага ў гэтым няма. Абудзілася ў людзях духоўнасць. Аднак ні ў касцёлах, ні ў цэрквах не чутно беларускага слова: гавораць там ці па-расійску, ці па-польску. У касцёлах вывешваюць польскія сцягі. А ў мясцовых школах ксяндзы вядуць гурткі польскай мовы. І калі чыесьці дзеці не наведваюць іх, то бацькі чуюць пагрозу: «Адлучым ад каталіцкай веры! Нага ваша не ступіць за парог касцёла!» Пра гэта напісала раённая газета. Дык некалькі дзён вернікі атакоўвалі рэдакцыю «раёнкі» з патрабаваннем змясціць іх ліст за вяртанне польскай мовы. І да гэтага імкнуцца людзі, чыя родная мова беларуская! Словам, ідзе сапраўдны, арганізаваны рух за аднаўленне польскіх «крэсаў усходніх».

Намеснік міністра адукацыі Людміла Сухнат паведаміла, што Міністэрства зараз працуе над стварэннем сістэмы нацыянальнай адукацыі. І той калектыў, які займаецца распрацоўкай адпаведнага праекта, у самы бліжэйшы час будзе заслуханы на калегіі Міністэрства.

Турбуе нас сёння вышэйшая школа. Яна не павярнулася тварам да беларусізацыі, за выключэннем асобных ВНУ. На ідэю нацыянальнай беларускай школы творча працуюць калектывы часопісаў «Роднае слова», «Адукацыя і выхаванне», «Пачатковая школа», «Пралеска». Выданні гэтыя карыстаюцца шырокім попытам у настаўнікаў.

У Людмілы Сухнат пацікавіліся, калі ж у школе будуць уведзены экзамены па гісторыі Беларусі. Аказваецца, напачатку ўводзіцца прадмет «Старонкі з гісторыі Беларусі». А чаму не адразу — «Гісторыя Беларусі»? Бо не напісаны яшчэ новы падручнік. Гэту задачу павінны тэрмінова вырашыць навукоўцы.

Народны дэпутат Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь Яўген Цумараў сказаў, што прыйсці да незалежнасці мы можам толькі праз нацыянальнае Адраджэнне. У беларускай супольнасці свой адметны шлях: нам не хапае нацыянальнай рэлігійнай еднасці. Мы маем адметную ментальнасць. Не трэба цешыць сябе ілюзіямі, што яшчэ нехта прыйдзе нам на дапамогу. Тыя, хто хацеў паслужыць беларускай справе, ужо выявілі сябе. Трэба дбаць пра выхаванне малодшага пакалення, а гэта патрабуе ўмацавання нацыянальнай, перш за ўсё пачатковай, школы...

Хаця і павольна, маруднымі крокамі прасоўваючыся наперад, нацыянальна-дзяржаўны суверэнітэт усё ж такі становіцца рэальнасцю. І дапамагае найперш дзяржаве ў гэтым клопаце высокі ўзровень свядомасці носьбітаў беларускай мовы. То чаму ж дзяржаве ў сваю чаргу не дапамагчы мове, чаму не ўзяць яе ў спадарожнікі па шляху да сапраўднага суверэнітэту?

У спрэчках выступілі радыёжурналістка Рэгіна Гамзовіч, старшыня клуба «Спадчына» Анатоль Белы, настаўнік Алесь Белакоз, рэдактар газеты «Наша слова» Эрнэст Ялугін, міністр інфармацыі Анатоль Бутэвіч, старшыня вайсковай суполкі ТБМ маёр Міхась Варанец, навуковец Алесь Лозка, старшыня Міёрскай рады ТБМ Сцяпан Масла і шэраг іншых удзельнікаў канферэнцыі. На завяршэнне працы была прынята Пастанова канферэнцыі «Беларуская мова і нацыянальна-дзяржаўны суверэнітэт Рэспублікі Беларусь».

Алесь КАРЛЮКЕВІЧ.

## Факты, лічбы

*** Сярод кіруючых работнікаў ВНУ, устаноў аховы здароўя, народнай адукацыі беларускай сталіцы першае месца займаюць рускія, пасля — украінцы. Далей — яўрэі і палякі. І толькі пятую прыступку займаюць беларусы.**

**** Аамаль у тры разы павялічана колькасць беларускамоўных падручнікаў для пачатковай школы.***

*** Шэсцьдзесят гадоў на беларускай мове друкаваўся салігорскі «Шахцёр». А цяпер ён ужо двухмоўны.**

**** Ужо сёлета ў дзіцячых садках (цалкам беларускамоўных ці з беларускамоўнымі групамі) выхоўваецца ў два разы больш дзетак, чым у мінулым годзе.***

*** Газета «Навіны Беларускай Акадэміі» выдаецца на дзвюх мовах.**

# Супраць мікроба абыякавасці

## З пасяджэння Рэспубліканскай Рады ТБМ імя Ф. Скарыны

***У дзень правядзення Рэспубліканскай канферэнцыі «Беларуская мова і нацыянальна-дзяржаўны суверэнітэт Рэспублікі Беларусь» адбылося пасяджэнне Рэспубліканскай Рады ТБМ імя Ф. Скарыны. Аб чым вялася гаворка? На гэтае пытанне і адказвае змешчаная ніжэй справаздача.***

Вёў пасяджэнне Ніл Гілевіч. На абмеркаванне сяброў Рады былі вынесены два пытанні. Са справаздачай аб выдавецкай дзейнасці Таварыства выступіў Зміцер Санько, які ўзначальвае выдавецкую камісію. Ён расказаў прысутным пра выданні, што пабачылі свет пад шыльдай ТБМ, а таксама пра планы выдавецкай камісіі Таварыства.

Сярод навінак адраджэнскай літаратуры, якія павінны ўбачыць свет,— філасофская праца А. Цьвікевіча, слоўнік Я. Станкевіча, тэрміналагічны слоўнік вышэйшай матэматыкі. Калі гаварыць пра рэдактарскую падрыхтоўку згаданых выданняў, то праца над іх рукапісамі завершана. Справа — за друкарамі. І вось у гэтым якраз найгалоўнейшая праблема. Да прыкладу, выданне доўгачаканага падручніка па геаграфіі Аркадзя Смоліча накладам у 10 тысяч пааасобнікаў (нават без выдаткаў на паперу!) патрабуе 300 тысяч рублёў. Гэта — сёння. А заўтра?..

Да таго ж большасць друкарняў перайшла на афсетны друк, і паліграфісты адмаўляюцца ад выдання кніг з нізкімі накладамі.

Выступленне старшыні выдавецкай камісіі Таварыства дапоўніў галоўны сакратар ТБМ Яўген Цумараў.

— Сярод таго, што мы запланавалі і падрыхтавалі да выдання, безумоўна, вялікую цікавасць у чытачоў павінны выклікаць кніга Алеся Краўцэвіча, прысвечаная Грунвальдскай бітве, і «Слоўнік асабовых імёнаў». Завершана праца над рукапісамі зборніка тапонімаў. Два слоўнікі — матэматыкі і фізічных тэрмінаў — перададзены ў Дзяржкамдрук. Заклапочанасць Таварыства выклікае тое, што многія адносіны з дзяржаўнымі структурамі вызначаюцца безадказнасцю апошніх... У прыватнасці, хаця Таварыству і была выдзелена папера па дзяржаўнай цане Саветам Міністраў Рэспублікі Беларусь, да сённяшняга дня ні за 1991, ні за 1992 год нічога атрымаць не ўдалося.

З цікавасцю было сустрэта на пасяджэнні грунтоўнае выступленне міністра інфармацыі Анатоля Бутэвіча:

— ... Беларускае кнігавыданне знаходзіцца на краі пагібелі. Кошт аднаго падручніка ўжо сягнуў за пяцідзесяцірублёвую мяжу,— зазначыў спадар Бутэвіч.— Дзяржава ўсялякі спрабуе выратаваць беларускае друкаванае слова. Датацыя толькі на беларускую перыёдыку сёння складае 45 мільёнаў рублёў...

Удзел у абмеркаванні згаданых пытанняў прыняў і сябра Рэспубліканскай Рады Вінцук Вячорка. Адзначыўшы плённасць працы выдавецкай камісіі, ён заўважыў, што многае ў сённяшніх умовах залежыць ад хуткасці рэалізацыі кніжнай прадукцыі. В. Вячорка звярнуў увагу прысутных і на такі важкі бок справы беларусізацыі, як стаўленне да энтузіястаў, людзей ініцыятыўных:

— Сваёй чэрствасцю мы нямала адпіхнулі ад сябе тых, для каго беларушчына — лёс, а не нейкая там забава. Як прыклад — кіяскёр Алесь Гурыновіч. Пры яго працы шапік ТБМ на праспекце Францішка Скарыны нагадваў сабою сапраўдны беларускі клуб. Цяпер жа, як змяніліся гаспадара, большасць часу кіёск зачынены. Дык навошта тады там канцэнтраваць літаратуру для рас-

(Заканчэнне на с. 3).

*і нацыянальна-дзяржаўны суверэнітэт Рэспублікі Беларусь»*

# СУПРАЦЬ МІКРОБА АБЫЯКАВАСЦІ

*(Заканчэнне. Пачатак на с. 2)*

паўсюджвання?.. Пагадзіцеся, што ў нас апошнім часам пачынае працаваць мікроб абыякавасці.

Шмат заўваг адрасаваў В. Вячорка калектыву рэдакцыі газеты «Наша слова». У прыватнасці, адзначыў выступаючы, бюлетэнь, які папярэднічаў газеце і выдаваўся літаральна на грамадскіх пачатках, быў больш карысны чытачам. У сённяшнім «Нашым слове» шмат лішніх, неістотных, а часам і зусім не працуючых на карысць роднай мове матэрыялаў. В. Вячорка прапанаваў разглядзець працу газеты на сумесным пасяджэнні Рэспубліканскай Рады і рэдкалегіі «Нашага слова».

Яўген Цумараў прысвяціў сваё выступленне агляду напрамкаў, канкрэтных крокаў гаспадарчай дзейнасці.

— Эканамічныя праблемы закранулі і ТБМ. Фінансавыя сродкі, якія ў асноўным складаюцца з ахвяраванняў, і раней былі не надта вялікія, а цяпер і зусім упала іх удзельная вага ў бюджэце ТБМ... Што ж да перспектыў гаспадарчай дзейнасці, то Рэспубліканская Рада вядзе перамовы з Менгарсаветам аб выдзяленні зямлі плошчай у 0,5 гектара, дзе можна было б пабудаваць боксы, склады, а мажліва, і памяшканне культурнага прызначэння.

На пасяджэнні Рэспубліканскай Рады ішла гаворка і пра тое, што перашкаджае пашырэнню асяродкаў ужывання роднай мовы. Аналізавалася паланізатарская і русіфікатарская дзейнасць каталіцкага касцёла і праваслаўнай царквы. Лявон Ліпень назваў гэту дзейнасць на Беларусі рэалізацыяй палітыкі замежных дзяржаў.

Янка Брыль пазнаёміў прысутных з польскамоўным квартальнікам «Магазын польскі», які пачаў выходзіць у Гродне. У ім глядзяць на Беларусь праз прызму маёнтка і касцёла, гэтым як быццам стараючыся апраўдаць даўняе права на нашу зямлю, на наш працоўны народ. Такі падтэкст амаль ва ўсіх матэрыялах. Праўда, у іншым польскім выданні сёлета пра Беларусь і беларусаў сказана: «Нібы народ, нібы мова, нібы гісторыя». З другога боку, на нас усемагчымымі метадамі спрабуе ўплываць «русская православная церковь»...

Зацікаўленая, клапатлівая гаворка на пасяджэнні Рэспубліканскай Рады паказала, што балючых пытанняў процьма, і вырашэнне іх у значнай ступені залежыць ад рашучасці, ініцыятыўнасці кожнага з яе сяброў.

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ.**

*Патрыёты маўчаць не схацелі*

# І СОРАМ, І КРЫЎДА, І СПАДЗЯВАННЕ

Нягледзячы на 7 год перабудовы, на тое, што ўжо маем сваю дзяржаву — Рэспубліку Беларусь, свой сцяг, свой герб, да апошняга часу не верылася, што такі матэрыял зможа быць надрукаваны. І вось здарылася. Васіль Супрун даволі змястоўна і праўдзіва ў сваім допісе «Па-..ыёты маўчаць не схацелі!» («Наша слова», № 11, 1992 г.) даў агульную канву барацьбы свядомых беларусаў за сваю мову, культуру і незалежнасць. Трэба адзначыць, што ў 1945—47-ых гадах у гэтую барацьбу ўключылася амаль выключна толькі моладзь, бо самыя свядомыя патрыёты старэйшага пакалення ўжо сядзелі на Поўначы Расіі, у далёкай Сібіры або ляжалі ў Курапатах.

Восенню сорак чацвёртага года, калі яшчэ ішла вайна, у горадзе Глыбокім адкрыліся 6-месячныя курсы па падрыхтоўцы настаўнікаў для пачатковых школ. Хутка выявілася, што юнакі і дзяўчаты, якія прыехалі на курсы, а перад тым скончылі сямігодку пры акупацыі, дзе выкладанне ўсіх прадметаў вялося на беларускай мове, слаба валодаюць «русским языком». Пры напісанні дыктанта амаль усе мы рабілі па паўсотні, а то і больш памылак. Узнікла пытанне: як магчыма з нас зрабіць настаўнікаў за такі кароткі тэрмін? І вось на базе курсаў было адкрыта 3-гадовае педагагічнае вучылішча, якое хутка ўкамплектоўвалася настаўнікамі з Расіі. Усе прадметы, акрамя беларускай мовы, сталі выкладацца на рускай мове. Заўважалася, што з нас пачалі старанна выкарчоўваць усё свядомае, беларускае. Замоўчвалася наша гісторыя, духоўнасць, спадчына. Свежымі былі яшчэ ўспаміны з часу вызвалення Заходняй Беларусі ў верасні 1939 года. Спачатку людзі цешыліся: прыйшлі свае, абрыдлі палякі, якія адно імкнуліся апалячыць «Усходнія крэсы».

Добра мне запомніўся адзін ранак. Было гэта ў канцы лютага ці ў пачатку сакавіка 1940 года. Яшчэ вечарам прыехала ў нашу вёску Багуцкія з райцэнтра Дзісна (тады быў такі раён) некалькі санных падвод з энкавэдыстамі. Усе яны ў белых кажушках, добра апрануты, абуты, пры зброі, заначавалі ў нас і ў суседняй хаце. Было весела. У суседняй хаце зрабілі нешта накшталт вечарынкі, прыйшлі дзяўчаты, знайшлася балалайка, пачалі танцаваць. Мы, дзеці, таксама прыйшлі паглядзець. Помню, бацькі ламалі галаву — куды гэта едуць энкавэдысты і чаму начуюць у нашай вёсцы? А ранкам, яшчэ да світання, прачынаемся ад ляманту жанчын і крыку дзяцей. Побач жыў другі сусед з вёскі Сарочына Шыман Іван, які працаваў леснікам у графа і ў якога было дзевяць дзяцей. Дык вось, на досвітку энкавэдысты акружылі гэту хату. Усёй сям'і далі дзве гадзіны на зборы. Сталі выносіць клункі, дзяцей. Усіх дзяцей апрануць і абуць не было ў што, сям'я жыла бедна, пара чобатаў і якаясь куртка была на дваіх, і таму дзеткі зімой выходзілі пагуляць на свежае паветра па чарзе. На лямант збеглася ўся вёска, асабліва жанчыны, прыбеглі і мы, дзеці. Жудасна было глядзець, як выносяць малых, закутаных у коўдры, і садзяць між клункаў на падводы. Жанчыны лямантуюць, дзеці плачуць. Вельмі шкада мне было сябрука Іваньку, была там і Нанка, і Галіна, і астатнія. Жанчыны пачалі крычаць: што ж вы, гады, робіце? Але энкавэдысты, пагражаючы зброяй, адагналі людзей і павезлі небаракаў пад канвоем на станцыю Зябкі, дзе ўжо стаяў падрыхтаваны цягнік курсам на поўнач, на лесанарыхтоўкі. У гэтую ж ноч забралі яшчэ адну знаёмую мне сям'ю Басянка Стэфана з вёскі Шыманы. Забралі за тое, што сям'я мела штось каля дваццаці гектараў зямлі і падышла пад рамкі кулака. І так па ўсіх вёсках. Цягнік са станцыі Зябкі на поўнач пустым не пайшоў. Помню, мая маці пакрыху стала сушыць сухары, бо было ў нас тры каровы і нашу сям'ю можна было падагнаць пад «вываз». У народзе гэтыя акцыі называлі «хапун», ад слова схапіць. Але потым яны крыху прыпыніліся, бо ўсіх вывезці аказалася немагчыма, транспарту не падрыхтавалі. Ну, і, пэўна, улады палічылі, што ўжо задалі народу добрую порцыю страху і ён замаўчыць і будзе пакорлівым. Вось такія ўспаміны.



Сябры Пастаўскай арганізацыі СБП. Маладыя, таленавітыя. Жыццё толькі пачынаецца. А наперадзе блізкі арышт і доўгія пакуты на бальшавіцкай катарзе.

Сядзяць (злева направа): АДАМОВІЧ Аляксандр, БАРОЎКА Ліна, АСІНЕНКА Мікола, АСІНЕНКА Ніна, ЛАГУЦЁНАК Валянцін. Стаяць: СТАХОЎСКІ Віктар (трэці злева), ЛЫСЁНАК Уладзімір (шосты злева).

Нас цяжка было ўжо выхоўваць прыкладам Паўліка Марозава, як расійскія настаўнікі ні стараліся. Нездарма гаворыцца: лепш адзін раз убачыць, чым сто разоў пачуць. А з нас жа рыхтуюць настаўнікаў пачатковых школ. Чаму ж мы навучым нашых дзетак, калі самі не будзем свядомымі? І вось у Глыбоцкім педвучылішчы, дзесь ужо ў канцы сорак пятага года, узнік гурток, які ставіў мэтай абуджаць свядомасць студэнтаў. Натхніцелямі і кіраўнікамі гуртка былі Мядзелец Васіль, Юршэвіч Аляксандр, Фурс Антось. Хутка зразумелі, што легальным шляхам (у той час, у тых умовах) нічога зрабіць немагчыма, патрэбна канспірацыя. Гурток ператварыўся ў падпольную арганізацыю «Саюз беларускіх патрыётаў» (СБП). Арганізацыя ставіла сваёй мэтай на першым этапе праводзіць работу па павышэнні свядомасці студэнтаў, будучых настаўнікаў. На другім этапе, калі маладыя настаўнікі раз'едуцца па раёнах, праводзіць такую ж работу сярод насельніцтва, каб яно адчувала сябе беларусамі.

Трэба адзначыць, што зусім самастойна такая ж арганізацыя ўзнікае і ў Пастаўскім педвучылішчы. Толькі потым былі наладжаны кантакты. З прыездам у Глыбокае Асіненкі Мікалая і Лагунёнка Валянціна абедзьве групы аб'ядналіся пад назвай «Саюз беларускіх патрыётаў». Час быў вельмі жорсткі. Праводзіць пашыраную работу па павышэнні свдомасці беларусаў цяжка яшчэ нават і зараз, і ў сто разоў было цяжэй у той час таталітарнай сочкі. Мы ж бачылі, з якім скрыпам у Вярхоўным Савеце прымаюцца пастановы аб прыняцці бел-чырвона-белага сцяга і «Пагоні». А ў той час цудоўнай дзяўчынцы з Пастаў Шуры Умпіровіч за тое, што яна намалявала для нас «Пагоню», далі 25 гадоў катаргі, а перад тым чамусьці страшэнна мучылі на допытах. Яна і зараз не рэабілітавана.

Тым не менш агітацыйная работа вялася, у арганізацыю ўступалі новыя сябры. Летам сорак шостага года ў Глыбокім ужо налічвалася некалькі канспіратыўна закрытых пяцёрак сяброў СБП. У Пастаўскім педвучылішчы канспірацыя была слабейшая, вось у яе «органы» лёгка і ўклінілі свайго агента. Пад канец сорак шостага ўжо адчувалася, што за намі сочаць. І вось у ноч на 7 лютага 1947 года пачаліся арышты. У Глыбокім у тую ноч забралі Мядзельца Васіля, Фурса Антона, Бялевіча Льва — якраз яны падтрымлівалі сувязь з Паставамі, і затым арыштавалі большасць з астатніх членаў нашай арганізацыі. З 16 па 20 чэрвеня 1947 года ў Менску адбыўся закрыты, без удзелу бакоў абароны і абвінавачвання, працэс. На ім судзілі 33 членаў СБП. Пазней, восенню, калі ўжо дабралі апошніх, у Полацку было асуджана яшчэ 10 чалавек.

Тэрмін зняволення давалі вельмі вялікі — 25, 15, 10 гадоў. Зараз усім вядома, як умелі следчыя органы «афармляць» такія справы, калі нават ленінская гвардыя, саратнікі ягоныя падпісвалі самі сабе смяротныя прыгаворы, а мы ж былі яшчэ амаль жаўтаротымі падлеткамі! А што ўжо давялося потым перажыць, перацярпець у турмах, на этапах, у лагерах! Гэта ў поўную меру зразумее толькі той, хто там пабываў. У 1953 годзе ў лагеры, дзе я сядзеў, разбушавалася эпідэмія жаўтухі (хвароба Боткіна). Два разы ёю перахварэў і я. А як з бальнічнага барака выпішуць, гоняць на падземныя работы ў шахту (горад Інта, што за палярным кругам). У 1954 годзе мокры плеўрыт, у 1955 — язва страўніка, прабадзенне, страўнік выразалі. Чатырохгадзінную аперацыю рабілі без наркозу ў лагерных умовах. Дзіўлюся, як удалося выжыць. Пасля смерці Сталіна, пры хрушчоўскай адлізе, выпусцілі. На камісіі па вызваленні абяцалі — чакайце, вас скора рэабілітуюць. І вось трыццаць сёмы год чакаем.

Вельмі крыўдна і сорамна за нашу феміду, за наша правасуддзе. Магчыма, яму даражэй тыя берыеўскія прыгаворы, што нішчылі ўсё свядомае, нацыянальнае, яму напляваць на лёсы людзей, што дзеля выжывання і вольнасці народа паклалі сваё юнацтва, сілы, здароўе, а то і жыццё. Відаць, наша грамадства яшчэ не дарасло да свядомасці, да вольнасці. Ёсць значныя сілы, якім не патрэбна ні незалежная Беларусь, ні яе мова ды культура. Ім не патрэбен і бел-чырвона-белы сцяг і «Пагоня». Нельга сказаць, што гэтыя людзі цалкам вінаватыя. Вінавата сістэма, якая зрабіла іх такімі. Таму наша Беларусь і пляцецца ў хвасце палітычных падзей, таму і губляе свой дабрабыт, нішчыць эканоміку. І толькі дзякуючы актыўнасці суседніх народаў і нацый, і ў нас пакрыху тое-сёе робіцца.

Але я веру, настае новае стагоддзе, новае тысячагоддзе, і свет стаіць перад новай рэчаіснасцю. Новыя пакаленні адбудуюць вольнай і нашу родную Беларусь.

Трэба яшчэ ўспомніць тых сяброў, якія пацярпелі за нашу справу і якіх не пазваў спадар Супрун. Гэта: Бабіч Віталь, Барсук Тамара, Еўдакімаў Цярэнцій, Конан Мікалай, Савік Стась, Пратас Юстын, Рымдзёнак Іван, Умпіровіч Шура.

**Леў БЯЛЕВІЧ.**
г. Полацк.

***Рубрыку вядзе народны пісьменнік Беларусі Янка БРЫЛЬ***

# НАВАГРАДСКАЯ БУРСА

Мне здаецца, для сучаснай моладзі і нават для людзей сталага ўзросту цікава было б пазнаёміцца не толькі з варункамі вучобы ў старой беларускай гімназіі, але і з нашым штодзённым побытам. Таму хачу пазнаёміць чытачоў «Нашага слова» з гімназічнымі гадамі маёй вучобы, толькі ўжо з чыста побытавага боку.

У свой час пастаянным спадарожнікам Навагрудскай беларускай гімназіі была бурса. Гэтая назва цяпер гучыць трохі архаічна, успрымаецца, як даўно забытая старая рэч. Сягоння такія ўстановы называюцца інтэрнатамі — хаця ідэнтыфікаваць іх нельга. Бурса нагадвала сям'ю навучэнцаў рознага ўзросту ад першага да восьмага класа, усе члены якой карысталіся роўнымі правамі, уносілі ў агульны кацёл аднолькавыя паі і мелі аднолькавыя абавязкі ва ўнутраным бурсацкім жыцці. Толькі ад дзяжурства па кухні вызваляліся бурсакі малодшых класаў, бо з-за свайго фізічнага стану не маглі выконваць цяжкую працу, як, напрыклад, насіць для кухні ваду вёдрамі на адлегласць да двухсот метраў — водаправода на той час у Наваградку не было. Арганізавана бурса была для бяднейшых вучняў, якім не па кішэні было плаціць за прыватную кватэру 8—10 злотых — грошы на той час не малыя (кілаграм сала ці пуд жыта каштаваў 2 злотых). Першае памяшканне пад бурсу было арандавана вясной 1927 года ў Брацянцы. На той час гэта была прыгожая мясціна — сядзіба якогасьці пана.

Кожны дзень пасля заняткаў, вяртаючыся ў бурсу, мы забягалі ў пякарню, каб прыхапіць па баханцы хлеба, якую з нашае мукі выпякаў гаспадар пякарні яўрэй Гарадэльскі. Як сягоння помню — на кожным бохане хлеба была прыклеена вузенькая стужка паперы з прозвішчам гаспадара пякарні. Але доўга мы ў Брацянцы не пажылі, толькі да канца навучальнага 1927 года, а ўжо ў 1928 годзе мы перабраліся на Пярэсеку. Хоць таксама было ад цэнтра далекавата, але ўсё ж бліжэй да школы. Было нас, гімназістаў, на той час у бурсе каля 40 чалавек.

Бурса займала два невялікія драўляныя будынкі. У адным была вялікая спальня і кухня з кладоўкай, у другім — сталовая (адначасова зала для заняткаў), пакой для выхаваўцы, кіраўніка бурсы, доўгі калідор і дзве спальні. Ложкі былі казённыя, жалезныя, а пасцель кожны прывозіў з сабой. Кожны бурсак для асабістых рэчаў — бялізны, ручніка і іншых туалетных дробязей — прывозіў з сабою дашчаны ці фанерны куфэрак (стаіць ён у мяне на гарышчы і сягоння). На валізку (чамадан) рэдка хто раскашэльваўся, большасці з нас гэтыя рэчы былі не па кішэні. У гэты ж куфэрак хавалі які-небудзь харч, прывезены з дому бацькамі. Трэба прызнаць, што ежа, якая гатавалася на бурсацкай кухні, не вызначалася асартыментам, не выклікала асаблівага апетыту. Наша кухарка цётка Алена гатавала простыя сялянскія стравы: крупнік ці зацірку, часам забеленыя, а найбольш заскваранымя, кашу панцаковую (па бурсацку — шрот) з лыжкай свінога тлушчу.

А як вялікае свята (і сапраўды гатавалася ў святочныя дні) успрымалася паяўленне на стале бульбянога кома і да яго — боршч з чырвоных бурачкоў ці кіслая капуста. Усе стравы гатаваліся з тых прадуктаў, якія нашы бацькі прывозілі з дому. Можа, каго зацікавіць, які ж пай мы ўкладвалі ў агульны бурсацкі кацёл. А гэта былі 2 пуды бульбы, паўтара пуда жытняй мукі, 10 фунтаў пшанцаку, 10 фунтаў пшанічнай пытляванай мукі, 2 кг сала і 3 злотых дадаткова на цукар, каву, чай. Быў створаны бурсацкі камітэт са старэйшых вучняў, які вёў кантроль за правільным выкарыстаннем і расходам нашых прадуктаў. Але якія б стравы на кухні ні гатаваліся, талеркі ці міскі пасля яды былі заўсёды пустыя.

Прыезду бацькоў мы заўсёды чакалі, як вялікага свята, асабліва ў малодшых класах, калі прывезены з дому гасцінец у выглядзе кольца дамашняй каўбасы ці камяка масла, загорнутага ў капусны ці хрэнавы ліст, быў не менш дарагі, як бацькава ці матчына ласка.

На Пярэсіцы бурса пратрымалася два гады. Кіраўніком яе і адначасова выхаваўцам быў настаўнік матэматыкі Данілевіч Аляксандр Андрэевіч, славуты наваградскі матэматык.

Снедаць, абедаць і вячэраць садзіліся ў сталовай усе разам, і па заведзенаму парадку перад ядой і пасля яды дзяжурны гаварыў адпаведную малітву. Можа, маладым і цікава ведаць словы гэтых малітваў: я іх помню яшчэ і сягоння. Вось яны. Перад ядой: «Очи вся на тя, Господи, уповают, ты даеши нам пищу во благовремении, отверзаеши щедру руку твою и исполняеши всякое животное благоволение». Пасля яды: «Благодарим тя, создателю, яко насытил еси нас земных твоих благ, не лиши нас и небесного твоего царствия».

У дні рэлігійных свят і кожную нядзельку пад наглядам кіраўніка бурсы пара за парай ішлі ў царкву к абедні. Як звычайна, хадзілі толькі ў сабор на Гродзенскай вуліцы. У царкву прыходзілі не толькі бурсакі, але і ўсе гімназісты, якія жылі на прыватных кватэрах, выстройваючыся шчыльным гуртам справа, бліжэй да алтара. Пры адпраўленні абедні заўсёды прымаў удзел гімназічны хор пад кіраўніцтвам настаўніка музыкі і спеваў нашай гімназіі Валынчыка Антона Міхайлавіча.

Трэба сказаць, што хор выконваў царкоўныя песні выдатна, і многія навагрудцы з вялікай ахвотай прыходзілі ў царкву, каб паслухаць абедню з удзелам нашага хору. Але многія з нас тады абавязковае наведванне царкоўных богаслужэнняў успрымалі як надакучлівы абавязак і шукалі розныя прычыны, каб ухіліцца ад пахода ў храм. Кожны стараўся засяродзіць сваю ўвагу на прадметах царкоўнага інтэр'ера. З цікавасцю разглядалі іканастас і іконы на царкоўных сценах і паціху, каб не заўважыў настаўнік, пыталіся адзін у аднаго, чаму ўсе апосталы і праведнікі на іх босыя або ў сандалях толькі з адной падэшвы. Асцярожна паварочваючы галаву ці скасавурыўшыся, назіралі за прыхаджанамі і давалі асобным тыцам, з'едлівыя мянушкі і характарыстыкі. Зразумела, былі сярод нас і такія хлопцы і дзяўчаты, каторыя выстойвалі абедню добрасумленна і маліліся шчыра, ад душы.

Неафіцыйнае шэфства над бурсай мела пані старасціна, жонка тагачаснага наваградскага старасты Сялявы. Старасціна, калі наведвала бурсу, то гаварыла па-беларуску. Яна прыхільна ставілася да нашай гімназіі і навват некаторым бяднейшым бурсакам памагала матэрыяльна. Між іншым, і я карыстаўся яе дабрачыннасцю: на працягу некалькіх гадоў майго бурсацкага жыцця яна за мяне плаціла ў бурсацкую касу штомесяц 3 злотыя. Часам гасціннасцю нашай бурсы карысталіся і адзінокія нашы настаўнікі, якія не маглі адразу па прыездзе ў Навагрудак уладкавацца на прыватнай кватэры. Такім чынам адзін год праз усю зімку асталяваўся ў нашай бурсацкай сталоўцы настаўнік малявання Язэп Нарцызавіч Драздовіч. Яго ложак за печкай нам не замінаў, але прысутнасць пана настаўніка ў пэўнай меры скоўвала нашу свабоду. Тым больш, што ён у тую зімку падхапіў радыкуліт і па ноч націраў паясніцу нейкімі лекамі, па паху падобнымі на шкіпінар. Акрамя націрання, ён ужываў яшчэ і ўнутраныя лекі. Пад рукой (дакладней, пад ложкам) у яго заўсёды была бутэлька з лякарствам, загорнутая ў паперу. Зразумела, усе гэтыя пахі-водары і лячэбныя працэдуры не маглі не выклікаць сярод бурсакоў незадавальнення і раздражнення, якія часам выліваліся ў неэтычныя ўчынкі ў адносінах да настаўніка.

Электрычнасцю ў той час бурса не карысталася, а ўсе памяшканні асвятляліся газавымі лямпамі. Манатоннае бурсацкае жыццё разнастаілася рознымі гульнямі і выдумкамі, на якія заўсёды была багата маладосць.

Шмат чыталі. Сярод вучняў малодшых класаў самай папулярнай была літаратура прыгодніцкая, фантастычная і дэтэктыўная. «Тры мушкецёры» А. Дзюма, «Прыгоды Шэрлака Холмса і доктара Ватсана» Конан Дойля, «Коннік без галавы» Майн Рыда і іншае. Гэта мела ўплыў і на нашы гульні. Многія ладзілі сабе драўляныя шпагі (балазе кусты арэшніку раслі недалёка, і ў іх можна было выразаць любую тычку).

Часам у пагодныя нядзельныя дні, вясною ці ўвосень, здаралася пагуляць у футбол. Ні школьнага, ні бурсацкага футбольнага мяча ў нас не было, гімназічнай футбольнай каманды не было таксама, ды і шкада было свайго чаравіка на такую разрыўку, але калі з горада са сваім футбольным мячом прыходзілі ў бурсу браты Плескачы, якія таксама вучыліся ў нашай гімназіі, то ахвотнікаў паганяць яго было хоць адбаўляй. Здараліся гульні (дакладней, учынкі), якія нават насілі і «антыпаньствовы» (палітычны) характар. Не помню, у якім годзе, але ўжо пасля маёвага перавароту, калі Пілсудскі стаў дыктатарам Польшчы і былі назначаны пасля роспуску сейма і сената новыя выбары ў гэтыя ўстановы, у Польскай дзяржаве расклейваліся вялікія папяровыя партрэты Пілсудскага з подпісам — «гаспадар». На выбарчых агітацыйных пунктах можна было атрымоўваць пэўную колькасць гэтай наглядней агітацыі для распаўсюджвання сярод насельніцтва. Карыстаючыся гэтым, мы забягалі на ўчасткі, каб атрымаць некалькі плакатаў. Бо другі бок у іх быў чысты. У польскія часы сшыткі і папера былі досыць дарагія, і мы з гэтых плакатаў рабілі самадзельныя сшыткі для дамашніх заданняў. І вось аднойчы якомусьці дасціпнаму бурсаку прыйшла ў галаву думка занесці і павесіць плакат з партрэтам Пілсудскага ў бурсацкую прыбіральню. Усім бурсакам гэта вельмі спадабалася, і плакат правісеў у прыбіральні пару дзён, пакуль туды не наведаўся кіраўнік бурсы. Выхаваўца сарваў плакат, але вялікага шуму не ўзнімаў, бо і сам Пілсудскага недалюбліваў, назваўшы аднойчы вялікім ашуканцам беларускага народа.

Нягледзячы на тое, што Навагрудак у той час лічыўся цэнтрам ваяводства, грамадскае жыццё ў ім ледзь варушылася. Вуліцы ажывалі ў базарныя дні, калі сяляне з навакольных вёсак прыязджалі на рынак або калі зімою гімназісты коўзаліся на санках.

З надыходам вясны, калі добра прасыхалі дарогі, а ў нашых куфэрках даўно канчалася дамашняя самапомач і не было надзеі, што хутка прыедзе бацька, бо якраз у разгары гаспадарчыя палявыя работы, мы, вучні з Любчы, Ачукевіч, Скрышава часта ў суботу пасля ўрокаў, сабраўшыся вясёлым гуртам, пяшочкам шпарылі дахаты.

Гэта цяпер асфальтаваная аўтастрада Навагрудак — Любча выпрасталася і бокам абыходзіць усе вёскі, а на той час гасцінец праходзіў цераз вёскі Куравічы, Клюковічы, Малыя Верабевічы, Скрышава, Равятычы. Цікава было ісці, наглядаць за старымі сялянскімі забудовамі. Нізкія халупы з абымшэлымі саламянымі стрэхамі, з вялікімі капяжамі і застрэшкамі, маленькія акенцы — у большых хатах па два ад вуліцы і два ў двор, а ў меншых толькі па адным — стваралі ўражанне беспрасветнай цемры і бядоты. Затое многія агароды былі засаджаны садамі, і вясной усё патанала ў квецені. У Любчы і ў бліжэйшых да яе вёсках хацін ужо не было. Панішчыла вайна, бо фронт у 1916 годзе пралягаў па Любчанскім адрэзку па Нёмане. І калі будынкі не былі знішчаны ваеннымі дзеяннямі, то іх разабралі салдаты на бліндажы, акопы, а то і на дровы. Мінуўшы Малыя Верабевічы, мы затрымліваліся каля вялізнай таполі (якая і сягоння расце), каб падзівіцца на яе таўшчыню і вышыню. Пра гэтае дрэва расказвалі легенды. Мясцовыя старажылы запэўнівалі, што ў 1812 годзе пад яго раскідзістым шатром адпачываў адзін з напалеонаўскіх маршалаў. У другой легендзе апавядалася пра слыннага і шляхетнага сялянскага «разбойніка» Сарвішапку, які куралесіў у гэтых аколіцах, маючы сваё патаемнае сховішча ў Няміраўскай пушчы. Як заўсёды ў народных паданнях, бандыт памагаў бедным, а рабаваў толькі багатых паноў, пакуль яго не злавілі і не павесілі менавіта на гэтым дрэве.

Падарожжа падыходзіла к канцу: скрышане былі ўжо дома, а мы, любчане і ачукоўцы, разыходзіліся кожны ў сваім напрамку. Любчане гасцінцам проста ў Любчу, а мы палявой сцежачкай цераз гіблае балотца, якое называлася Чарцёж, кіраваліся ў Ачукевічы. Пераначаваўшы дома, назаўтра пасля абеду зноў мералі нагамі гэтыя тры мілі (тады яшчэ старыя людзі адлегласць мералі вёрстамі і мілямі). Пры вяртанні ў кожнага за спіной горбіўся невялікі хатулёк, а ў ім прысмакі, што прыгатавала кожнаму руплівая маці.

Звычайна кавалак пірага, шматок сала, колца каўбасы, камяк масла ці клінок свежага сыру, балазе ўжо ў тую пару каровы хадзілі па пашы і малака было пад дастаткам. Той самы маршрут мы адольвалі за якія 4 гадзіны і вечарам у нядзельку былі на месцы ў сваёй альма-матэр.

У апошнія гады маёй вучобы ў гімназіі бурса знаходзілася ў канцы Сянежыцкай вуліцы за Сакольскім пляцам. Наша гімназія ўжо апошнія паўгода лічылася філіяй польскай гімназіі імя А. Міцкевіча, і замест аднаго кіраўніка-выхаваўцы было два: з беларускага боку — Сланеўскі Ігнат Андрэевіч, які вярнуўся з Чэхаславакіі, дзе канчаў філалагічны факультэт Пражскага універсітэта, і ад польскай гімназіі — пан Аўгустын, які выкладаў гісторыю сучаснай Польшчы.

Прадчуваючы, што вучобе хутка канец, большасць з бурсакоў старанна набывалі веды, шмат чыталі, лічылі неабходным знаёміцца і чытаць слынных аўтараў і пісьменнікаў сусветнай літаратуры. У першую чаргу чыталі Пушкіна, Лермантава, Гогаля, Талстога, Дастаеўскага, шукалі творы Ібсена, Рабіндраната Тагора, Уілтана Сінклера, французскіх класікаў. Кожны з нас лічыў за гонар прачытаць творы гэтых аўтараў, хоць яны і не былі абавязковай літаратурай для гімназістаў.

Кнігі даставалі хто як мог: у знаёмых, у гарадской бібліятэцы, у якой на той час літаратуры на рускай мове было больш, як на польскай (захавалася яшчэ ад царскіх часоў). Польскай жа літаратурай нас у апошнія гады забяспечвала польская гімназія, якая мела даволі вялікую бібліятэку, а з беларускай мы знаёміліся ў нашай невялічкай гімназічнай бібліятэцы, ці праз настаўнікаў.

З болем мы развітваліся з нашай гімназіяй, калі польскія ўлады яе ліквідавалі, а з ёю і бурсу, якая таксама была школай жыцця.

**Уладзімір СІЎКО.**

 



*Дапытлівым*

## Гук – «пярэварацень»

Адной з самых тыповых рыс беларускай мовы, што, паводле Я. Карскага, існавала на працягу ўсяго яе жыцця, можна лічыць «зменлівасць» [в]. Вучоны тлумачыў такую з'яву асаблівым «характарам» гэтага беларускага гука. Чым жа незвычайным вылучаецца ён?

У беларускіх гаворках гук [в] можа пераходзіць у [г], [б], [л], [м] ды ў іншыя гукі, можа быць падобным на білабіяльны (губна-губны) [в] ці набліжацца да [ў]. Наогул, [в] лёгка пераходзіць у [у] і ў пачатку і ў сярэдзіне слова, а таксама, калі стаіць у канцы слова ды пасля галосных.

Гэтая рыса нашай мовы настолькі тыповая і відавочная, што, як сцвярджае Я. Карскі, усе перапісчыкі рукапісных беларускіх твораў ды дакументаў так ці інакш стараліся яе пазначыць. Даўнія пісцы, якія, як згадвалася ў папярэдніх артыкулах, стараліся вытрымліваць традыцыйную арфаграфію, у выпадку са «зменлівасцю» [в] вельмі часта пазначалі гэтыя пераходы. У пачатку слова, прыкладам, яны выкарыстоўвалі *у* на месцы этымалагічнага *в*.

Вядома, у розныя часы гэты гук перадаваўся непасрэдна літарай *у*, але яна, у залежнасці ад традыцыі ці графічнай сістэмы, мела розныя графічныя выявы.

Нескладовае *у* (*ў*), якое ў беларускай мове з'явілася на месцы *у* і *в*, даўней перадавалася спалучэннем літар *оу*. Я. Карскі падае прыклады з даўніх грамат і актаў XIII — XVI стагоддзяў. У Дагаворнай грамаце смаленскага князя Мсціслава Давыдавіча (1229 год) вучоны знайшоў: *оуздумалъ; оусхочеть; оу Ризе; оу Руси гостить; оустоко; оу Смолнескъ.*

*(Працяг будзе).*

*У свеце слоў*

### Сёлета

*Сёлета* ўтварылася са словазлучэння, у якім назоўнік і ўказальны займеннік былі ў форме роднага склону адзіночнага ліку: *сего лета.* Пры зліцці двух слоў у адно страціўся прыдыхальны [г], у спалучэнні гукаў *ео* адбылося асіміляцыйнае змяненне і зліццё двух гукаў у [о], г. зн. з *сего* ўзнікла *сё*. Так і атрымалася *сёлета.*

### Летась

У слове *летась сь* успрымаецца як суфікс, хоць гэта былы «скарочаны» займеннік *се* (мужчынскі род — *сь*, жаночы — *ся).* Галосны [э] скараціўся да поўнага знікнення. Такім чынам, *летась* ідзе з *лето се.*

**Іван ШПАДАРУК.**

## *Ці можа рыба кляваць?*

У перыядычным друку і творах некаторых пісьменнікаў, а таксама ў асобных слоўніках рыбу прымушаюць «кляваць», хоць ніякага «клюва» яна не мае.

Дзюба, ці, як яе тлумачаць у слоўніках, выцягнутыя, з рагавым пакрыццём, бяззубыя сківіцы ў птушак і некаторых іншых жывёл, прыстасаваныя для яды, у розных мовах мае неаднолькавыя (часам і надта блізкія) назвы. У беларускай мове гэта дзюба (у гаворках яшчэ і *дзюб*), ва ўкраінскай — *дзьоб* (падобнае і ў польскай), *дзюб*, у расійскай — *клюв.* І гэты «інструмент» і сам працэс прымання ежы называюцца звычайна аднакаранёвымі словамі: беларускія *дзюб* і *дзюбаць (дзяўбаць, дзяўбці)*, украінскія *дзьоб* і *дзьобаті* (такія ж і польскія), расійскія *клюв* і *клевать.* Згаданыя дзеясловы выкарыстоўваюцца і ў пераносным значэнні. Так, па-расійску кажуць: «птица клюёт» і «рыба клюёт», але і «клевать носом» — пра чалавека, які дрэмле, то апускаючы, то падымаючы галаву (гэта нагадвае працэс прымання ежы птушкамі). І беларусы з чалавека, які дрэмле, жартуюць: «носам дзяўбе», «носам торкае» ці «носам вадзіць». А вось пра рыбу беларусы не кажуць «клюе» ці «дзяўбе». Рыба бярэ, бярэцца ці торкае. Бярэ — гэта значыць бярэ ў шчэлепы прынаду, торкае — гэта значыць цягае, варушыць прынаду.

Гэтую адметнасць дзвюх блізкіх моў — беларускай і расійскай — добра засведчыў наш найноўшы акадэмічны двухтомны «Беларуска-рускі слоўнік» пад рэдакцыяй акадэміка К. Атраховіча (Кандрата Крапівы) (Мінск, т. 1, 1988, т. II, 1989). У ім бачым: «акунь добра бярэцца на чарвяка» — «окунь хорошо клюёт на червяка» (т. 1, с. 196), «рыба пачала браць прынаду» — «рыба начала клевать» (тамсама, с. 197); «шчупак узяўся» — «щука клюнула» (т. II, с. 600).

«Руска-беларускі слоўнік» 1982 года таксама падаваў гэтыя адпаведнікі да расійскага слова *клевать:* 1. (о птицах) дзяўбці; 2. (о рыбе) торкаць, кляваць; (ловиться) брацца; смотри, клюёт — глядзі, торкае; сегодня рыба не клюёт — сягоння рыба не бярэцца (не клюе, не торкае); лещ клюёт на червяка — лешч бярэцца на чарвяка; тут бачым і фразеалагізм — «торкаць носам» (т. 1, с. 357). Як можна заўважыць, гэты двухтомны слоўнік побач з заканамернымі для беларускай мовы словамі *брацца, браць, торкаць* часам згадвае і слова *кляваць*, але не як асноўнае, а дадатковае. Дарэчы, слова *клюў* тут не падаецца. Яго адпаведнікам выступае *дзюба.* Дык ці можна кляваць, не маючы клюва?

«Беларуска-рускі слоўнік» 1988, 1989 гадоў удакладніў меркаванне ранейшага даведніка і не падае ўжо *кляваць* як эквівалент да *дзяўбці, брацца, браць.* Словы *кляваць, клюнуць* ён падае толькі як не нарматыўныя на сённяшні дзень лексічныя адзінкі, пазначаючы іх як абласныя, дыялектныя (т. 1, с. 606). Думаецца, што тут даецца правільная кваліфікацыя слова *кляваць*, бо ўнармаванай мове яно неўласцівае.

**Павел СЦЯЦКО.**
**г. Гродна.**

***У 18-м нумары «Нашага слова» ад 8 мая была змешчана нататка Анатоля Літвіновіча «Уражанне ад рэпартажу», якая, на маю думку, магла б стаць пачаткам дыскусіі на вельмі актуальную тэму — выкладанне замежных моў на Беларусі. Якое важнае значэнне мае гэтая праблема, у першую чаргу, для будучыні беларускай мовы, не кажучы ўжо аб іншых яе прагматычных аспектах, я паспрабаваў абрысаваць у гэтай рэпліцы.***

***Міхал ПАТРЭБА,***
***выкладчык нямецкай мовы.***

***г. Гродна.***

## Беларуская мова пасрэдніц не патрабуе

**Вывучаючы повязь мовы і свядомасці, мовы і светаадчування, вядомы мовазнаўца Вільгельм фон Гумбальт прыйшоў да высновы, што «мова народа ёсць яго дух, і дух народа ёсць яго мова, і цяжка ўявіць сабе нешта больш тоеснае». Развіваючы гэтую думку, ён сцвярджае, што «духоўная своеасаблівасць і будова мовы народа настолькі глыбока пранікаюць адно ў адно, што, калі існуе адно, другое можна вывесці з яго. Разумовая дзейнасць і мова садзейнічаюць стварэнню толькі такіх форм, якія могуць задаволіць іх абедзве» (В. фон Гумбольдт. Избранные труды по языкознанию. М., 1984, с. 360).**

**Згаджаючыся з высновамі вялікага філолага, можам пацвердзіць іх канстатацыяй таго факта, што ў працэсе вывучэння замежнай мовы чалавек засвойвае не толькі іншамоўныя эквіваленты выразаў ці слоў роднай мовы, але і адпаведныя ідэнтычнай камунікатыўнай сітуацыі іншамоўныя канструкцыі, якія ўзнікаюць пры ўзаемадзеянні гэтай іншай мовы з іншым светаадчуваннем. На практыцы гэта азначае, што засвойваецца не толькі і не столькі, як гэтае слова ці выраз гучыць па-французску, па-нямецку, але і як скажа француз, немец у пэўнай сітуацыі.**

**Такім чынам, у працэсе засваення чужой мовы вучань засвойвае праз параўнанне не толькі іншую моўную сістэму, а і іншае светаадчуванне, а калі застацца пры тэрміналогіі Гумбальта,— іншае «моўнае светабачанне». Праз гэтае параўнанне навучэнец спасцігае глыбей своеасаблівасці мовы і мысленне роднага этнасу, атаясамлівае сябе з ім, бо толькі ў працэсе параўнання нацыянальная свядомасць становіцца самасвядомасцю, фактарам нацыянальнай самаідэнтыфікацыі.**

**Таму прымушаць беларускіх навучэнцаў вывучаць замежную мову праз пасрэдніцтва расійскай — не толькі чарговы гвалт над беларускай мовай, выцясненне яе яшчэ з адной сферы ўжытку, але і вельмі актыўная і дзейсная спроба здэфарміраваць нацыянальны менталітэт, аслабіць нацыянальную свядомасць, замяняючы яе сурагатам ментальнасці іншага народа. У гэтым сэнсе дзейнасць Менскага інстытута замежных моў па разбурэнні нацыянальнай годнасці студэнтаў-беларусаў няма з чым параўнаць. Таму і не дзіўна, што сёння, пасля амаль паўстагоддзя існавання гэтай навучальнай установы, мы не маем бадай што ніводнага вуснага перакладчыка ў камбінацыях замежных моў з беларускай.**

**Ужыванне расійскай мовы ў якасці пасрэдніцы пры вывучэнні замежных моў выхоўвае ў навучэнцаў пачуццё непавагі да беларускай мовы, замацоўвае ўпэўненасць, што яна не здольная стаць упоравень з развітымі мовамі цывілізаваных нацый, г. зн. зніжае яе статус. Такое становішча заключае ў сабе вялікую маральную небяспеку для будучыні беларускай мовы.**

**Ужыванне няроднай мовы-пасрэдніцы пры вывучэнні іншых моў ускладняе працэс засваення замежнай мовы, бо ўключае дадатковае, абсалютна непатрэбнае звяно. У такім выпадку становіцца псіхалагічна немагчымым уключэнне ў міжмоўную камунікацыю трэцяй, у дадзеным выпадку роднай, мовы без дадатковага навучання-трэніроўкі. Такім чынам, ужыванне няроднай мовы-пасрэдніцы негатыўна ўплывае як на працэс засваення іншай мовы, так і на ўдасканаленне навыкаў валодання роднай мовай.**

**Калі навучанне замежнай мове павінна весціся з двуадзінай мэтай (дзеля выпрацоўкі камунікатыўных навыкаў і выкарыстання ўсіх магчымасцей параўнаўчай лінгвістыкі для фарміравання гуманітарнага мыслення), то гэтая праблема актуальная ўдвая, бо тут прымешваецца яшчэ і мовазнаўчы аспект. Засваенне семантыкі, граматычнай сістэмы замежнай мовы ў працэсе пастаяннага параўнання з адпаведнымі аспектамі роднай мовы не толькі дапамагае ў авалоданні замежнай мовай, паглыбляе разуменне сваёй моўнай сістэмы, але і спрыяе фарміраванню мовазнаўчага кругагляду, філалагічных ведаў.**

**Ніводнай з гэтых мэт не адпавядае ўжыванне расійскай мовы як пасрэдніцы пры вывучэнні замежных моў, хоць прыцягненне яе як матэрыялу для параўнаўчага аналізу моўных сістэм — слушная і неабходная справа. Гэта справядліва, дарэчы, і ў адносінах да любой іншай мовы. Бо сапраўды, большая частка таго, што адметнае ў беларускай мове (пры параўнанні яе з расійскай), збліжае яе з заходнееўрапейскімі, у першую чаргу з нямецкай, і гэта тычыцца як лексікі, так і граматыкі. Але гэта ўжо асобная тэма.**

**Мэта гэтай гаворкі — абгрунтаваць выснову, якая ўсім нармальным людзям у нармальнай сітуацыі здаецца лагічнай, відавочнай, адзіна магчымай і не патрабуе доказаў. Аднак сённяшняя сітуацыя ў сістэме адукацыі на Беларусі, якая склалася ў выніку двухсотгадовай гвалтоўнай русіфікацыі і 75-гадовага бальшавіцкага прымусу, непамерна далёкая ад нармальнай і патрабуе тэрміновай карэкцыі.**

**Дык давайце ж выкажам, нарэшце, павагу да роднай мовы нашай і паставім яе ўпоравень з самымі развітымі мовамі свету — яна з гонарам і карысцю для сябе можа вытрымаць такое параўнанне і спаборніцтва!**

*Называйце па-беларуску*

### Буйміна

Сярод травяной зяляніны кідаюцца ў вочы вялікія купкі невысокіх (15—30 сантыметраў) раслінак з гронкамі белых ці, зрэдку, бледна-фіялетавых кветак. Гэта *буйміна.* Расце яна пераважна ў сырых лясах, на забалочаных лугах. Паводле такой яе асаблівасці на Магілёўшчыне буйміну называюць *макрухай, ражухай крынічнай.* Буйміну лёгка можна пазнаць яшчэ па адной прыкмеце. Долькі яе лісця, якое вырастае пры карэннях, круглай формы. А тыя, што сядзяць рэдка на сцябліне, падобныя на парэзаныя пёркі.

Калі ўважліва прыгледзецца да маладзенькіх буймінак, то можна ўбачыць, што яны вырастаюць нібы з лісткоў. І сапраўды, буйміна вельмі цікава размнажаецца. Лісточкі прыкарэннага лісця лёгка адломваюцца, і ў месцы, якім такі кавалачак даткнецца вільготнай зямлі, утвараюцца карэньчыкі і пупішкі ды развіваецца новая расліна.

Навуковая назва буйміны — *кардамінэ пратэнзіс* — паходзіць ад грэчаскага слова *кардзікс* «сэрца», *пратэнзіс* жа ў перакладзе — лугавы. Расіяне называюць буйміну *сярдзечнікам.*

### Падтыннік

Паўсюдна ў беларускіх вёсках пад платамі, на сметніках, у цяністых кутках вы можаце ўбачыць высокую, да метра, расліну, сцябло і лісце якой апушаны валаскамі. Цвіце яна ад мая да кастрычніка яркімі жоўтымі кветкамі, што сабраны ў падобныя на парасон суквецці. Лісце *падтынніка* перыстапасечанае, зверху цёмна-зялёнае, знізу шызае. Калі зламаць лісток ці сцябліну, то пачне выцякаць яркі аранжавы млечны сок. Гэта атрутная расліна, але яна выкарыстоўваецца ў народнай і ў афіцыйнай медыцыне. Лекавыя ўласцівасці падтынніка заўважылі яшчэ ў старажытнасці, іх апісаў Пліній. Алхімікі ў жоўтым карэнішчы падтынніку бачылі «камень мудрасці» і называлі яго «дарункам нябёсаў» — коэлі доніум, адкуль, пэўна, і навуковая яго назва *хэлідоніум маюс* (*маюс* ад лацінскага «вялікі»).

Шмат дзе на Беларусі падтыннік вядомы як *цанцалея, цэнцылія* (Брэстчына, Гродзеншчына), як *жоўты малачай, цалідонія, цынцалей* (Магілёўшчына), а на Віцебшчыне яго называюць *чыстацелам.*

### Свірэпа

Палеткі, папары, абочыны дарог ды і грады «аздоблены» жоўтымі кветкамі. І калі вы возьмецеся рваць іх, то адчуеце, што сцябліны і лісце расліны апушаны шорсткімі валаскамі. Кветкі пахнуць (добры меданос!), ды іх не любяць, бо *свірэпа* — пустазелле. Але вось вучоныя далі ёй назву даволі незвычайную — *барбарэа вульгарыс* (ад ранейшай яе назвы «трава святой Барбары»; зелле нібы валодала чароўнымі ўласцівасцямі). Цяпер жа свірэпа не трапіла ў кнігу беларускіх батанікаў «Лекавыя расліны і іх выкарыстанне». Беларускія рэгіянальныя назвы — *свірэпіца, свярбіга, свярбігуз, свірэлка.* Апошняя запісана М. Шатэрнікам у Чэрвенскім раёне.



 

Алег БЕМБЕЛЬ

# З «падпольнай» кнігі

*(Працяг. Пачатак у №№ 5—22).*

***(16 гадоў, руская, вучаніца X класа СШ г. Мінска)***

Чудесные синеокие озёра, окаймлённые тонкими стеблями тростника, бескрайние и бездонные болота, заросшие мягким и влажным мхом, таинственные леса, пахнущие свежестью хвои и грибов, спокойные, ровные холмы, цветущие весной нежными пролесками, необычайная мягкость и певучесть природы Белой Руси — всё это оставило след в белорусском языке, в белорусских народных песнях. Очень люблю белорусские народные песни за их мелодичность, нежность и красоту. Они — как неиссякающие криницы с живой водой.

По национальности я русская, но живу в Белоруссии тринадцать лет, почти всю мою жизнь, прожитую на земле. И за эти годы полюбила белорусский край, его обычаи, язык. Считаю, что каждый человек, живущий в Белоруссии, должен знать, понимать и ценить культуру белорусского народа.

***(16 гадоў, беларуска, вучаніца X класа СШ г. Мінска)***

Культура народа, мова народа павінна заставацца, пакуль існуе нацыянальнасць. Цяпер век тэхнікі, прагрэсу. Вядома, што патрэбна мова, якую б ведалі ўсе нацыянальнасці і народнасці. Такой мовай стала руская.

А беларуская мова патрэбна беларускаму народу, яна не згіне. Хай на ёй не будзе выпускацца навукова-палітычная літаратура. Але застаюцца шэдэўры класічнай літаратуры, развіваецца сучасная літаратура, для беларускіх тэатраў пішуць п'есы на беларускай мове.

Цяпер ясна, што я думаю. Няхай беларускія вучоныя пішуць на рускай мове, няхай беларусы размаўляюць на рускай мове, але беларуская мова павінна служыць беларускай культуры, развіваць духоўнае багацце народа. Народ не дасць ёй загінуць. Мова народа загіне толькі з народам.

***(16 гадоў, беларус, вучань X класа СШ г. Мінска)***

Беларуская мова. Пачуеш беларускае слова на вуліцы, і адразу звернеш увагу на гэтага чалавека, бо цяпер можна пачуць у горадзе больш англійскіх слоў, чым беларускіх. Вельмі падобная да рускай, беларуская мова паступова перастала ўжывацца, здаўшы свае пазіцыі нават у вёсках. Магчыма, гэта адбылося ў сувязі з узнікненнем новых слоў і са зменамі ў жыцці людзей, калі старажытныя беларускія словы сталі непрыгоднымі. Перастала ўжывацца мова, але нельга адмаўляць усю веквую культуру, створаную народам.

У жыцці бывае момант, калі чалавек адчувае сваю еднасць з народам і сваю гордасць за яго. Гэта адбываецца толькі тады, калі ты адчуў усю мілагучнасць роднай мовы, усю яе прыгажосць. Для мяне спатканне з роднай культурай адбылося нечакана: тое, што я чуў ужо колькі разоў, раптам стала нечым родным і блізкім. Нечакана я адчуў у беларускіх песнях тое, што жыло ў маёй душы, што гаварыла: «Я — твой сын, Беларусь!» Мова можа не ўжывацца, але яна павінна жыць у сэрцах людзей, і толькі тады будзе жыць беларускі народ.

***(17 гадоў, беларуска, вучаніца XI класа Рэспубліканскай школы-інтэрната па музыцы і выяўленчаму мастацтву імя І. О. Ахрэмчыка)***

Земли, её люди, их язык и культура — вот что родина и жизнь наша. Мучительно долго растет в человеке любовь, любовь к земле родной, к народу своему, к искусству. Это — великая боль, но всё же боль. И маленькие человечки, не знающие, зачем родились на эту землю, обходят боль стороной, не принимают её.

О! Если б люди знали, что они равнодушны к тому, что сделает их сильными, мужественными и счастливыми.

Человек, не понимающий родного языка, не любит свою землю.

Язык изменился. Не знаю, каким был древний белорусский, но думаю, он был таким же красивым, как русский древний. Пока я знаю одного белоруса, говорящего на истинном белорусском языке. Это Владимир Короткевич. Может быть, благодаря его искусству я люблю Белорусь и язык белорусский.

Мне стыдно. Живу на этой земле 17 лет, а пишу Вам по-русски. Русский я лучше знаю, больше могу сказать. А сказать надо много, но лучше говорить языком искусства.

***(17 гадоў, беларуска, вучаніца XI класа Рэспубліканскай школы-інтэрната па музыцы і выяўленчаму мастацтву імя І. О. Ахрэмчыка)***

**Вярталася аднойчы з падарожжа**
**У пракураным вагоне цягніковым**
**З Масквы альбо з Урала, нават, можа,**
**Уражаная наваколлем новым.**

**Там фарбы не такія, а на ўлонні**
**Інакш там нават лісце шамацела.**
**У тым наскрозь пракураным вагоне**
**Салдата-беларуса я сустрэла.**

**Ён сябру гаварыў: «Схаваем в мае...»**
**Збянтэжыўся: «Вот, путаюсь я снова».**
**А мне вось гэта самае «схаваем»**
**Здалося самым родным, лепшым словам.**

***(Паміж 20 і 30, беларуска, прыродазнаўца)***

Пэўна, у кожнага чалавека ёсць свой любімы твор, музычны, жывапісны, літаратурны, любімы афарызм, фарба, слова... у мяне гэта слова — Белая Русь! Мая зямля, мая радзіма, у ёй мае карані, у ёй мая сучаснасць і мая будучыня. А ўсё гэта неразлучна звязана мовай — мовай маіх родных, блізкіх людзей, маіх землякоў.

Вось я лічу сябе адукаваным чалавекам, займаюся навукова-даследчай дзейнасцю. Часта з сорамам прызнаюся, што дрэнна ведаю англійскую мову, зусім не ведаю іншыя замежныя мовы. Мне і сорамна і крыўдна. Але ж які вялікі сорам, якая бескультурнасць, якое невуцтва, якая непавага да сваёй зямлі і перш за ўсё да сябе — яе дачкі — прызнацца, што дрэнна ведаеш сваю **родную** мову (падкрэсліваю слова — родную), тую, «што па жылах маіх цячэ» (Р. Барадулін). Я люблю сваю мову, свой народ, буду шчыра шчаслівая і задаволеная, калі буду мець магчымасць больш, часцей размаўляць на ёй з маімі землякамі. Я звяртаюся да іх, маладых і старых, вясёлых і сумных — маіх сучаснікаў, давайце размаўляць адзін з другім дома, на вуліцы, на сустрэчах на сваёй роднай беларускай мове, якая да паэзіі падобна.

Упэўнена, што кожны з чытаючых гэтыя радкі згодзіцца са мной, што калі мы разняволъваемся, робімся шчырымі, «адчыняем дзверы сваёй душы», уваходзім у душы і адчыняем душы другіх людзей, наогул, калі мы робімся самі сабой, гэта ў лесе ля рэчкі ў кастра, калі збіраемся, каб пасядзець разам за сталом, калі разам з сябрамі едзем падарожнічаць — мы спяваем. Што?! З рэпертуару «Боні М» ці «АББА», аб якіх мы можам гаварыць часамі?.. Не!!! Мы спяваем свае родныя беларускія песні, на роднай мове. Чаму? Бо інакш мы не можам, інакш нельга, бо яны жывуць у нас кожны дзень, кожную гадзіну. Аднойчы ім робіцца цесна, душы сумна без іх, вось тады мы спяваем, жартуем, размаўляем на роднай мове, і ніхто нават не заўважае — бо гэта так натуральна, так высока, і ідзе ад нашых сэрцаў, пачуццяў, думак...

***(1925 г. нараджэння, беларуска, выкладчыца матэматыкі, Крупскі р-н Мінскай вобласці)***

...Што я думаю пра сваю родную беларускую мову?..

Сваё меркаванне па гэтаму пытанню я выкажу так: «Такой каларытнай, прыгожай, мяккай, як наша беларуская мова, няма». А выказаць што-небудзь гумарыстычнае на беларускай мове — так не зробіш ні на адной другой...

Калі хто скажа, што беларуская мова — штосьці незразумелае, непатрэбнае — такіх людзей для сябе я лічу нават ворагамі. Гэта вельмі рэзка, але інакш я не магу.

Хочацца выказаць яшчэ адну думку. Той, хто лічыць нашу мову незразумелай, «мужыцкай», непатрэбнай, вельмі дрэнна ведае гісторыю Беларусі ды і наогул нашай Радзімы...

Калі б ён ведаў гісторыю Беларусі, ён ніколі не спакваціўся б так сказаць. Многія ведаюць (і я таксама), што вынесла наша родная Беларусь у гады Вялікай Айчыннай вайны. Добра ведаюць гэта і тыя, каго воляй лёсу занесла на нашу тэрыторыю ў гэты час. Але ўсе мы — і казах, і грузін, і паляк, і чэх, і француз, і многія, многія іншыя — разумелі гэту «мужыцкую» мову, загады камандзіраў-беларусаў, разам грамілі ворага.

Па сваёй неадукаванасці ў справе мовы я не магу выказаць усіх сваіх пачуццяў да сваёй мовы, усяго таго, што ў мяне на сэрцы, але ў некалькіх словах выкажу маё меркаванне пра адносіны да беларускай мовы ў некаторых школах.

*(Працяг будзе).*

---

Выдадзена ТБМ

# «Не зьгіне мова наша ў блудзе!»

Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны накладам у 3000 паасобнікаў выдала зборнік вершаў народнага паэта Беларусі Ніла Гілевіча «Незалежнасьць». Ужо сама назва кнігі запэўнівае, што пад адной вокладкай сабраны вершы выразнага грамадзянскага гучання. Паэт заклапочана, з трывогай за духоўнае аблічча сучасніка, за яго нацыянальна-гістарычную свядомасць, піша пра самыя розныя бакі нашага жыцця.

Галоўная тэматыка зборніка — боль паэта за лёс роднага слова, за яго ролю ў чалавечым лёсе і ў Сусвеце.

І, перажываючы разам з аўтарам кнігі, шчасцем і святлом запальваешся, сустракаючы вось гэтыя радкі — радкі веры і ўпэўненасці.

Народ спадману не паддасца,
Не ступіць ён у гіблы сьлед.
У кожнай песьні, кожнай казцы
Тут лёс яго і запавет!

Ён тут спакон, ён — на радзіме,
Яму зьязджаць няма куды.
Ён сам заўжды і ў госьці прыме,
І дасьць прытулак ад бяды.

Народ — ён быў, і ёсць, і будзе!
Таму спакойна, дзецюкі!
Не зьгіне мова наша ў блудзе!
Яна наш сьветач — на вякі!

Застаецца дадаць, што ўсе грошы, выручаныя ад рэалізацыі зборніка «Незалежнасьць», пойдуць на рахунак Рэспубліканскай Рады ТБМ імя Ф. Скарыны.

Алесь КАРЛЮКЕВІЧ.

• • •

# Робін Гуд па-беларуску

«...Аднойчы, даўным-даўно, у тую пару, калі Англіяй правіў першы кароль з дынастыі Плантагенетаў — Генрых II, па Шэрвудскім лесе шпарка ішоў рослы, дужы, ладны юнак у кароткай зялёнай куртцы і такіх жа штанах у аблiпку, з сіняй шапачкай на галаве. Цераз плячо ў яго быў перакінуты вялікі лук, на баку вісеў калчан з доўгімі стрэламі, а на поясе кароткі паляўнічы нож»,— так гучыць «Сказ пра Робін Гуда» Джона Фінемара па-беларуску. Пераклад зрабіў Сямён Дорскі. Кніга вядомага пісьменніка выйшла ў мінулым годзе ў выдавецтве «Юнацтва» накладам у 73 тысячы паасобнікаў. Аформіў кнігу мастак А. Шэвераў.

---

# Ахоўваецца дзяржавай

**Зусім нядаўна (14.01.92) намаганнямі сяброў аб'яднання «Стары горад» былі пастаўлены дзве ахоўныя шыльды на помнік гісторыі і архітэктуры XVII ст. у Брэсце — кляштар бернардынак. Помнік знаходзіцца на тэрыторыі Брэсцкай фартэцыі: раней яго выкарыстоўвала пад свае сховішчы вайсковая часць. Аднак ужо да канца красавіка абедзве шыльды (па чарзе) нехта збіў. На шчасце, іх удалося адшукаць. Увогуле, нягледзячы на тое, што сябрамі аб'яднання кляштар быў вычышчаны, шматлікія «совки», якія едуць за мяжу па шмоткі, зноў сталі выкарыстоўваць яго пад прыбіральню. А яшчэ кажуць, што помнікі ахоўваюцца дзяржавай.**

* * *

**Кажуць, што Саюз моладзі Беларусі — арганізацыя не палітычная. Ці так гэта, можна меркаваць па аб'яве, што была змешчана ў Бярозаўскай раённай газеце «Маяк». У ёй мясцовыя арганізацыі СМБ і ветэранаў вайны і працы паведамлялі пра запланаванае імі на 22 красавіка ўскладанне кветак да помніка бальшавіцкаму ідалу Ульянаву-Леніну.**

**ВІС.**

***Вечарыны***

# Сяргей Панізьнік: «Праз пекла іду да раю»

20 мая ў Доме літаратара адбыўся творчы вечар Сяргея Панізьніка. З якой нагоды? Цяжка і паверыць, але паэту — пяцьдзесят!

На вечары былі два вядучыя: Рыгор Барадулін і Вячаслаў Рагойша, якіх Сяргей Панізьнік назваў сваімі вядучымі і па жыцці. Рыгор Барадулін на грамадскіх асновах адрэдагаваў першы зборнік вершаў юбіляра — «Кастры Купалля».

Нялёгкі лёс за плячыма ў былога вайскоўца Сяргея Панізьніка. Яго шчырая беларускасць паслужыла ў свой час адной з прычын выключэння паэта з партыі. А следам Сяргея Сцяпанавіча выгналі з войска... Пра гэтыя факты біяграфіі паэта, пра яго творчасць і вялі гаворку на вечары Рыгор Барадулін, Вячаслаў Рагойша, Алег Лойка, Адам Мальдзіс, Пятро Сушко, Пятрусь Макаль. Гучалі на вечары песні розных кампазітараў, напісаныя на вершы Сяргея Панізьніка. А народная артыстка Рэспублікі Беларусь Марыя Захарэвіч чытала вершы юбіляра.

А. К.

*Вольфганг ЛАНГЕ*

# Дванаццаць вінаватых

*(Заканчэнне. Пачатак у №№ 16—22).*

Шынок быў поўны людзей. Столікі не пуставалі. Было цесна ля стойкі. У гаспадара цёк з ілба пот — ён бесперапынку падстаўляў пад кран куфлі, адначасова адкаркоўваючы вінныя бутэлькі з квяцістымі этыкеткамі. Я прыгадаў яго ўчарашнія словы — пасля таго як рабочыя «Опеля» атрымаюць грошы, усе заваляцца сюды. Але пан Пфаншміт нават і не гляну ў наш бок — рабіў выгляд, быццам не бачыў, што мы зайшлі.

Нядоўга думаючы, інспектар праціснуўся да стойкі і запытаў гаспадара так гучна, што словы яго заглушылі гул галасоў:

— Мне неабходна пагаварыць з вашым сынам, пан Пфаншміт. Ён дзе-небудзь тут?

Шынкар адтапырыў вялікі палец у бок «Залы нарад» і пакруціў ім у густым тытунёвым дыме. Па яго твары было відаць, што ён намагаецца схаваць сваю трывогу.

Фаўльхубер задам выбраўся з таўкатні і накіраваўся да дзвярэй «Залы нарад». У гэты момант нейкі чалавек заступіў яму дарогу. Гэта быў рабочы гадоў сарака пяці — вялікі, з доўгімі моцнымі рукамі. Пад шэрай палатнянай курткай на ім была белая сарочка з чырвоным гальштукам.

— Пачакайце хвіліначку,— сказаў рабочы.

— Няма калі.

— Справа ідзе аб гэтай гісторыі з помнікам. Хлопцы, па якіх вы прыйшлі, ад вас не ўцякуць. Даю слова.

Хоць чалавек паводзіў сябе далікатна і ні разу не павысіў голасу, ва ўсёй яго постаці было нешта пагрозлівае. Раптам шум у зале сціх. Усе пазіралі на Фаўльхубера.

Я пашкадаваў, што мы не ўзялі з сабой Бесельмана,— інспектар не хацеў, і цяпер я пачаў асцерагацца за нашу бяспеку.

— Прапусціце! — сярдзіта сказаў рабочаму Фаўльхубер.— Калі ў вас ёсць што паведаміць мне, прыходзьце крыху пазней у канцылярыю бургаміста.

Рабочы не зварухнуўся. Цішыня набрыняла трывогай. Я не спускаў вачэй з рук рабочага.

— Хачу вас толькі папярэдзіць,— сказаў ён.— Вы думаеце, што машыну з гаража ў Клейдэрэра ўкралі хлопцы. На самай справе, не яны. Я ведаю, хто гэта зрабіў.

Фаўльхубер насцярожыўся: «Хто ж?» — гаварыў яго твар.

— Я.

У гэты міг за спінай інспектара апынуўся яшчэ адзін чалавек — вельмі падобны на таго, што засланіў дзверы. Наогул, у тое імгненне мне здалося, што ўсе рабочыя былі на адзін твар.

— Вы можаце спакойна яму верыць,— сказаў другі рабочы.— Зрэшты, як хочаце. У такім выпадку я скажу вам, што машыну ўкраў я, а потым наехаў на помнік. Адзін, без саўдзельнікаў.

Фаўльхубер павярнуўся да яго. Не паспеў ён і рота раскрыць, як падышоў яшчэ адзін рабочы з куфлем піва ў руцэ.

— Не слухайце іх, пан камісар. Яны вас абманваюць. Усё зрабіў я, магу прысягнуць. Хлопцы невінаватыя — гэта такая ж праўда, як і тое, што я стаю перад вамі.

—...дзевяць, дзесяць, адзінаццаць,— ціха лічыў я. Гадзіну назад вінаватых было ўсяго толькі восем, а цяпер іх ужо адзінаццаць! Я з нецярплівасцю чакаў, што будзе далей.

Інспектар сказаў:

— Не лічыце мяне дурнем. Нам вядома, што гэта зрабілі вашы хлопцы. У нас ёсць доказы. Чалавек, што стаяў ля дзвярэй, засунуў рукі ў кішэні.

— У вас ёсць доказы,— запярэчыў ён,— а ў нас тры прызнанні. Пабачым, хто выйдзе пераможцам.

У зале зноў узняўся шум. Усе загаварылі наперабой.

Шынкар выйшаў з-за стойкі. Выцер рукі аб белы фартух і спрытна прашыўся праз натоўп, што абступіў буфет.

— Прашу вас, пан інспектар,— сказаў ён,— пагаварыце з людзьмі. Калі вы арыштуеце майго Фолькера, ён вылецiць з гандлёвага вучылішча. Ён жа ж толькі хацеў... Прашу вас...

Фаўльхубер ніколі і выгляду не паказваў, што ён думае на самай справе. Але ён не быў закаранелы службіст-паліцэйскі, які ідзе напралом і крышыць на сваёй дарозе ўсё, што яму замінае. З ім можна было гаварыць. Ніхто гэтага не ведаў лепш, чым я, і мне цікава было, як ён будзе рэагаваць.

Нарэшце Фаўльхубер паволі падняў руку.

— Панове,— сказаў ён,— давайце толькі шчыра. Што, уласна кажучы, у вас тут адбылося?

— Сядзем за стол,— сказаў рабочы, які ўвесь час стаяў ля дзвярэй.— Не так і лёгка ўсё растлумачыць.

У кутку залы, пад галавой вепрука і тузінам алевых рагоў, нам ахвотна ўступілі столік. Перада мной і інспектарам гаспадар паставіў па шклянцы чырвонага віна, траім рабочым прынёс поўныя куфлі піва і для ўсіх — цыгары.

— Не ведаю, ці зразумееце вы,— пачаў першы рабочы.— Бюхельбург — правінцыяльны гарадок. Людзі жывуць тут, як у сне, любяць спакой і зусім не цікавяцца тым, што робіцца на свеце.— Ён памаўчаў. Засяроджана запаліў і раскурыў люльку.— А гэта якраз на руку такім фашыстам, як Клейдэрэр. Яшчэ перад сорак пятым што яны тут вытваралі, а цяпер зноў распераззаліся. Клейдэрэру вельмі хочацца стаць бургамістрам, і шансы ў яго не такія ўжо кепскія. Ён абяцаў залучыць у Бюхельбург замежных турыстаў і паставіў ужо на свае грошы помнік, каб ім было што фатаграфаваць. Але на самай справе ў галаве ў яго толькі палітыка. Ужо год як ён член НДП. Дзесяць працэнтаў галасоў на чарговых выбарах — вось што ён хоча. А як сядзе ў ландтаг, да ўрада ўжо рукой падаць.

Фаўльхубер узяў са стала цыгары і паднёс па чарзе кожнаму з нас.

— Якое ўсё гэта мае дачыненне да ўзлому? — запытаў ён.— У маю кампетэнцыю палітычныя пытанні не ўваходзяць.

— Нельга аддзяліць адно ад другога,— сказаў той, што сядзеў побач са мной.

— Калі Клейдэрэр дамогся ў абшчыннай радзе дазволу паставіць помнік,— зноў загаварыў першы,— людзі страшэнна абурыліся, але на гэтым усё і скончылася. Тады за справу ўзяліся хлопцы, якіх вы збіраецеся арыштаваць. Яны проста вывелі з гаража ў Клейдэрэра машыну і збілі ёю помнік.

— Які пастаўлен у гонар нейкага «дзеяча»? — запытаў Фаўльхубер.

— Правільна. Толькі слова «гонар» тут не да месца.

Інспектар прысвіснуў праз зубы.

— І таму вы не хочаце, каб я пасадзіў гэтых хлопцаў?

Рабочыя ўбачылі ўжо, што гаварыць з намі можна. Яны азірнуліся і падміргнулі сваім таварышам, што сядзелі за суседнімі столікамі. Пфаншміт падносіў людзям піва. Ён, відаць, павесялеў. Толькі я не зусім разумеў, пра што ішла гаворка, бо забыўся давядацца, што было высечана на абеліску.

— Ды што помнік! — сказаў першы рабочы.— Аднойчы хлопцы так пасадзілі Клейдэрэра ў лужыну, што ўвесь гарадок за жываты браўся. Вось так. Але карысці ад усяго гэтага мала... Помнік зноў паставяць на месца, і ўсё застанецца, як было.

Фаўльхубер паківаў галавой:

— Так, усё будзе, як і было...

— Можа, не зусім.— Твары ў рабочых былі засяроджаныя.— На наступным тыдні,— сказаў адзін з іх,— у «Залатым анёле» хацелі наладзіць сход членаў НДП. Вы, вядома, бачылі плакат — учора ён яшчэ вісеў на дзвярах. Таму і паехаў Клейдэрэр у Нюрнберг — арганізаваць ахову залы, запрасіць прамоўцаў. Мы сказалі гаспадару, што нагі нашай больш тут не будзе, калі ён пусціць фашыстаў. Але пан Пфаншміт не паслухаў нас. Можа, спадзяваўся, што яму нешта перападзе ад клейдэрэрскіх турыстаў. «Залаты анёл» — адзіны пітны дом на пятнаццаць кіламетраў у акрузе. Калі сёння раніцай мы даведаліся, што сын яго трапіў у бяду, мы зноў населі на гаспадара, і ён узяў назад сваю згоду, а мы абяцалі вызваліць з бяды яго сына.

Фаўльхубер пабарабаніў пальцамі па стале. Потым падняў сваю шклянку і адпіў віна.

— А калі Клейдэрэр настоіць на тым, каб мы перадалі справу ў суд? — запытаў ён.

— На гэта ён не адважыцца. Калі не хоча, каб усе ад яго адвярнуліся, яму прыйдзецца трымаць язык за зубамі. Гэта мы яму ўдзяўбём. Цяпер, перад выбарамі, ён не пойдзе на скандал.

Фаўльхубер пільна зірнуў у мой бок:

— Як вы мяркуеце, пан калега?

— Гм...—адказаў я.— Усё не так проста.

Твар у Фаўльхубера зрабіўся строгі. І інспектар сказаў пану Пфаншміту так гучна, каб чулі ўсе, хто быў у шынку: расследаванне па справе Клейдэрэра яшчэ не скончана, і пакуль што няма дастатковых даных для арышту яго сына Фолькера. Па-другое, паказанні сведак супярэчлівыя, па-трэцяе, па-чацвёртае і па-пятае,— мы яшчэ дадзім аб сабе знаць, а сыночку ягонаму трэба будзе з'явіцца ў Ландау на допыт. Але пра гэта яму ў свой час паведамяць.

Прамова Фаўльхубера была шэдэўрам. Ён так нашпігаваў кожны сказ словамі, што людзі пад канец забыліся, пра што ён гаварыў у пачатку. Мы не хацелі, каб хто-небудзь падумаў, што мы перабеглі ў стан дэмакратаў. Асцярожнасць — маці поспеху.

Мы выйшлі з «Залатога анёла». На плошчы ўжо ўцямнела. Чатыры ці пяць ліхтароў ледзь асвятлялі ўскраек рынку. Я сеў за руль, уключыў матор і запаліў фары. Калі я паволі націснуў на газ, святло ад фар вырвала з цемры тое месца, дзе яшчэ пазаўчора стаяў абеліск. Магутны аўтакран з надпісам «Акц. тав. «Опель», Русельхейм-Ландау» якраз трымаў над зямлёй на двух сталёвых тросах абеліск і, пагойдваючы яго, апускаў на грузавік, які стаяў побач.

Я мог бы пайсці на заклад, што адміністрацыя завода «Опель» не ведала, дзе сёння быў яе аўтакран. Рабочыя заўсёды стаяць адзін за аднаго. Ніхто больш не ўбачыць гэты абеліск, я быў упэўнены. За гарамі ёсць нямала сажалак, не вельмі глыбокіх, праўда, але зарослых чаротам. Ці знойдзеш там гэты помнік?

Я выключыў фары і ў святле падфарнікаў паехаў далей. Інспектар зрабіў выгляд, што нічога не заўважыў. Ён выцягнуў ногі і заплюшчыў вочы. Асфальт шашы, што вяла ў Ландау, быў светлы ад месяца. На фоне фіялетавага неба чарнелі горы. Іхнія вяршыні, як абручом, акаймоўвала вузенькая палоска серабрыстага святла.

— Прыгожы край,— сказаў я, убачыўшы, што інспектар расплюшчыў вочы і таксама глядзіць на пакрытыя вінаграднікам горы.— Шабію ні на што не прамяняю... Калі дазволіце, паеду крышачку цішэй. Такая дзівосная ноч рэдка калі бывае.

— Рабіце як хочаце,— адказаў Фаўльхубер і потым дадаў: — Не толькі прырода дзівосная, але і людзі цудоўныя!

— І я так думаю. Толькі іншы раз уночы мне мроіцца нешта такое, што ніяк не выкінеш з галавы: ліпне да мяне, як густы сіроп.— Я ўключыў фары і пазіраў, як на святло ляцяць начныя матылі.— Калі я працаваў яшчэ ў аўтатранспартнай інспекцыі, мне даводзілася прымаць удзел у вызначэнні інтэнсіўнасці вулічнага руху. Я станавіўся з лісткам паперы на абочыне вуліцы і кожны раз, як паўз мяне праязджала машына, ставіў на ім рысачку. Такім чынам аўтаінспекцыя падлічвала інтэнсіўнасць вулічнага руху ў пэўны час сутак. Цяпер мне іншы раз мроіцца, нібы я стаю на Максіміліяніштрасэ ў Мюнхене альбо на Ёзефгляцы ў Нюрнбергу і назіраю за прахожымі, што ідуць па тратуары. Бясконцы паток людзей, якія кудысьці спяшаюцца альбо няспешна шпацыруюць, ідуць насустрач адзін аднаму, разыходзяцца... У час апошніх выбараў у баварскі ландтаг кожны дзесяты выбаршчык аддаў свой голас за НДП. І каб я вёў падлік пешаходаў, як тады падлічваў машыны, мне прыйшлося б кожны раз, як пройдзе дзесяць чалавек, ці, значыць прыблізна праз кожныя чатыры секунды, ставіць на паперы свастыку. Праз якую гадзіну ў мяне гэтых крыжоў набралася б тысяча. Невясёлыя думкі, ці не праўда?

— Божа! Калі такія думкі зноў не будуць даваць вам спаць, пастарайцеся ўспомніць бюхельбургскіх рабочых з «Опеля».

Мы пасмяяліся, але раптам я падумаў, што не так лёгка будзе паставіць апошнюю кропку пад справай з машынай Клейдэрэра.

— Што будзем рабіць са справаздачай? — спытаў я.— Усё ж такі два дні мы ездзілі па раёне і не можам так проста кінуць у кошык гэтую справу. Трэба застрахаваць сябе на выпадак, калі Клейдэрэр альбо Бесельман раскрыюць рот.

Я не бачыў твару Фаўльхубера, але мне падумалася, што ён наморшчыў лоб. Інспектар маўчаў. Хвіліны праз тры ён падзяліўся сваімі думкамі:

— Мы павінны верыць рабочым — яны стрымаюць сваё абяцанне. Мне давядзецца так сфармуляваць справаздачу, каб з яе можна было вычытаць усё і нічога. Гэта даверце мне. Ці, можа, вы самі хочаце ўзяцца за яе?

— Дзякуй, але вы — шэф. Аднак я прапаную вам вось што. Дагэтуль у нас было адзінаццаць вінаватых, але, можа, вам гэтага мала, тады дапішыце і мяне. Круглы тузін заўсёды справа добрая. А я ўжо вас выблытаю, калі дойдзе да горшага. Можаце не сумнявацца.

— Тады парадак,— сказаў Фаўльхубер. Мы якраз уехалі ў Ландау, і ён папрасіў: — Кіруйце налева, па Шылерштрасэ. Хочацца дадому. Для такога пажылога чалавека, як я, на сёння ўсяго было зашмат.

Калі я спыніў машыну перад яго домам, ён падаў мне руку, чаго, здаецца, раней не рабіў. Потым, крэкчучы, вылез з кабіны і ляпнуў дзверцамі. І тут я раптам успомніў пра помнік. Апусціў правае акенца і крыкнуў услед інспектару:

— Ледзь не забыўся! У чый гонар быў пастаўлены помнік?

— Хіба гэта так важна? — адказаў Фаўльхубер пытаннем на пытанне.— Помніка ўжо і са свечкай не знойдзеш.— Ён доўга корпаўся па сваіх кішэнях, шукаючы ключ.— Але калі вам так хочацца ведаць,— нейкаму генералу, якога палякі ў сорак пятым павесілі як ваеннага злачынца. Толькі пры чым тут слова «гонар»? Правільна казалі бюхельбуржцы.

Пераклаў з нямецкай мовы
Сямён ДОРСКІ.

